КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 15 (336) ◂ 19 красавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**«ЯК АРЫШТАВАЛІ АНДРЭЯ, КОТКА ТАК КРЫЧАЛА…»**

Стар. 6

**ПРАГРАМА ПАГЛЫБЛЕННЯ НАСТУПСТВАЎ ЧАРНОБЫЛЯ**

Беларускі ўрад штогод рапартуе пра вялікія выдаткі на пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы...

Стар. 5

**БАРАНЭСА ТЭТЧЭР І ПАНК-РОК**

Смерць Маргарэт Тэтчэр адрадзіла даўнюю спрэчку паміж прыхільнікамі і праціўнікамі экс-прэм'ера. Ёсць толькі адзін пункт, у якім адны і другія сыходзяцца, — Жалезная Лэдзі зрабіла вялікі пазітыўны ўплыў на музычную культуру

Стар. 13

**«ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» — ЗМАГАННЕ ЗНАКАЎ І ТРАЎМЫ ЦЕЛАЎ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НЯЗРУЧНЫ ГЕРОЙ**

Эсэ Алеся Кіркевіча

▸ **З НАГОДЫ**

# «ВЯЛІКАЕ ПЕРАСЯЛЕННЕ» ЧЫНОЎНІКАЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Днямі Аляксандр Лукашэнка падпісаў рыхтаваны з восені мінулага года ўказ аб скарачэнні дзяржаўнага апарата на 25%. Але, згодна з тэкстам указа, аб скарачэнні, як высветлілася, размова не ідзе. Размова ідзе аб «аптымізацыі».**

Згодна з папярэднімі падлікамі, «аптымізаваць» плануецца каля 13 тысяч чыноўнікаў. Вызваленыя грошы плануецца пусціць на падвышэнне заробку тым, хто застанецца. Але як гэта будзе на практыцы?

На практыцы гэта будзе вельмі павольна, вельмі марудна, і падвышэння заробку рэшце чыноўнікаў давядзецца пачакаць каля года. Бо ўказам прадугледжаны пэўныя меры па сацыяльнай абароне звольненых. Так, скарочаным дзяржслужачым на перыяд да ўладкавання на новае месца працы (але не даўжэй, чым на адзін год з дня звальнення), будзе прадстаўлена адтэрміноўка пагашэння крэдытаў на будаўніцтва або набыццё жылля, а таксама для аплаты за навучанне пры атрыманні першай вышэйшай адукацыі іх дзецьмі.

Звольненыя дзяржслужачыя таксама захаваюць «права на медыцынскае абслугоўванне ва ўстановах аховы здароўя, у якіх яны абслугоўваліся да звальнення».

Гэта беспрэцэдэнтныя льготы для звычайнага беспрацоўнага.

Такім чынам, год пройдзе, і чыноўнікі, якія засталіся на дзяржслужбе, могуць разлічваць на павышэнне заробку? Адмыслоўцы кажуць, што гэтае павышэнне наўрад ці будзе кардынальным. За кошт скарачэння дзяржапарату плануецца выйграць каля 1 трыльёна рублёў — 120–130 мільёнаў долараў. Але, па падліках незалежных эканамістаў, гэтага дастаткова толькі на тое, каб падняць заробак «тым, хто застаўся», на 200–250 долараў. Канешне, у беларускіх умовах гэта таксама неблагія грошы, але ж і працаваць давядзецца за дваіх.

Але што самае цікавае ў гэтым дакуменце, дык гэта тое, што органы ўлады павінны паклапаціцца аб сваім былым служачым. Персанальная адказнасць за выкананне ўказа, як адзначаецца на прэзідэнцкім сайце, кладзецца на кіраўнікоў дзяржаўных органаў. Яны будуць абавязаны паклапаціцца аб працаўладкаванні звольненых чыноўнікаў — «з улікам іх прафесіі, кваліфікацыі і раней займаемай пасады, у тым ліку шляхам пераводу на іншую, не звязаную з дзяржаўнай службай працу».

Па меркаванні адной з распрацоўшчыкаў дакумента, памочніцы прэзідэнта Наталлі Пяткевіч, дзяржслужачыя маюць рэальны досвед у рэальных справах, таму іх трэба проста перавесці ў «рэальны сектар эканомікі».

Але што значыць «рэальны сектар эканомікі»? Не паставіш жа былога кіраўніка аддзелам райвыканкама на месца цесляра або слесара, да станку? Ён там напрацуе!

Як прагназуе кіраўнік Аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка, неўзабаве ў «рэальным сектары эканомікі» з'явяцца новыя пасады. У нас з'явіцца шмат менеджэраў, маркетынгавых службаў, піяр-аддзелаў і прэс-службаў у канцэрнах і міністэрствах з былымі наменклатуршчыкамі звяна «крыху вышэй».





Акрамя таго, улада стварыла выдатны спосаб працаўладкавання чыноўнікаў на любым прадпрыемстве і ў любой структуры. «Рэзерв такіх вакансій, як намеснікі па ідэалагічнай працы, у нас на прадпрыемствах проста велізарны. Бо ў ідэале на кожным прадпрыемстве любой формы ўласнасці павінен быць ідэалагічны работнік. У гэтым сэнсе, на 13 тысяч чыноўнікаў знайсці прадпрыемствы, на якіх няма намесніка дырэктара па ідэалагічнай працы, — гэта раз плюнуць», — адзначае Заіка.

Адначасова ўлада вырашае і яшчэ адну праблему — праблему надзвычай нізкіх заробкаў чыноўнікаў. Пра яе казаў Лукашэнка на адной нарадзе, якраз прысвечанай скарачэнню штатаў. «Гэта проста ніякая зарплата. У нас некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў, якія сядзяць на датацыях, або ж кіраўнікі, якія, як у народзе кажуць, наогул лыка не вяжуць, атрымліваюць пад 20 мільёнаў рублёў і яшчэ прэміі сабе налічваюць. А дзяржслужачыя, якія працуюць, і палавіны таго не маюць. Недапушчальна нізкая зарплата», — заявіў Лукашэнка напачатку года.

Улічваючы, што намеснік дырэктара атрымлівае заробак прыкладна ў памеры 90% ад дырэктарскага, нават калі гэта намеснік дырэктара па ідэалагічнай працы, то зарабляць на датацыйным прадпрыемстве нічога не робячы, і атрымліваць мільёнаў 18 — гэта проста фарт.

А для самых маладых і амбіцыйных выйсцем застаецца Расія. Як ні дзіўна, але яна ўладкоўвае на працу не толькі нашых будаўнікоў ды кіроўцаў: пісьменныя менеджары, ды яшчэ з досведам паспяховай працы ў такой экстрэмальнай краіне, якой з'яўляецца Беларусь, патрэбныя паўсюль.

Такім чынам, «скарачэнне чыноўнікаў» і «аптымізацыя дзяржапатару» з'яўляюцца проста «перасадкай чыноўніцкіх органаў» з адных крэслаў у іншыя. Як у анекдоце пра тое, як татуля доўга пытаўся ў сына, кім ён хоча стаць. Калі сыну надакучыла пералічваць міліцыю, ваенных і пажарных, ён заявіў: «Ды адчапіся ты! Усё роўна працаваць не пайду!»

МІСІЯ МІРА

# «МЫ ЯШЧЭ ЖЫВЫЯ. МЫ СУПРАЦЬ НАЦЫЗМУ»

Эла ДЗВІНСКАЯ

**З 25 красавіка па 2 траўня 2013 года дэлегацыя былых непаўнагадовых вязняў фашызму і іх сямейнікаў паедзе з місіяй міра ў Францыю і Германію, каб сустрэцца з палітыкамі і грамадскасцю.**

«Мы яшчэ жывыя. Мы супраць нацызму», — з такім заклікам дэлегацыя едзе ў падарожжа па Еўропе.

Сёння ў Беларусі жыве каля 30 000 былых вязняў фашызму. Арганізацыі былых вязняў актыўна змагаюцца за свае правы. Іх ініцыятыўная група з 293 чалавек прасоўвала стварэнне закона «Аб ахвярах фашысцкага пераследу» ў Беларусі. Яны звярталіся да дэпутатаў Нацыянальнага сходу са сваімі прапановамі, і толькі адзінкі з дэпутатаў адказалі на гэтыя лісты. У законе, прынятым у 2009 годзе, пра былых вязняў канцлагераў і гета напісалі як пра ахвяраў «некаторых ваенных канфліктаў», іх пазбавілі статусу ветэранаў.

Нагадаем, у Беларусі ў 1993 годзе была створана Беларуская асацыяцыя былых непаўнагадовых вязняў фашызму (БАБНВФ), у розных гарадах паўсталі арганізацыі і раённыя суполкі былых непаўнагадовых вязняў фашызму. Адна з такіх суполак, Мінская Першамайская арганізацыя, адзначыла 14 красавіка свае 20-годдзе.

Мэтай дзейнасці сяброў арганізацыі зрабілася падтрымка сваіх суграмадзян, якія перажылі вязненне з дарослымі, захаванне памяці пра загінулых і передача праўдзівай інфармацыі пра ахвяраў вайны.

Былыя вязні ўсталёўваюць стасункі народнай дыпламатыі, яны наведвалі чэшскі мемарыял ахвяраў фашызму ў Лідзіцы, ездзілі ў Кракаў і ўскладалі кветкі ахвярам лагера «Асвенцым» (Аўшвіц). З імі разам падарожнічалі школьнікі-валанцёры. Паводле аповедаў былых вязняў удалося выдаць кнігу ўспамінаў жывых сведчанняў ахвяраў вайны.

Яны падтрымліваюць добрыя стасункі з нямецка-беларускім таварыствам сяброўства «Майнц—Мінск», якое ачольвае фраў Гертруда Браўч. Некалькі разоў хор былых непаўнагадовых вязняў «Лёсы» з Мінска па яе запрашэнні выступаў у Майнцы і Берліне з канцэртамі.

СВАБОДА СМІ

# СУДЗЯЦЬ ФОТААЛЬБОМ!

Генадзь КЕСНЕР

**18 красавіка Ашмянскі раённы суд прызнаў фотаальбом «Belarus Press Photo 2011» экстрэмісцкім і пастанавіў знішчыць 41 асобнік выдання, раней канфіскаваны беларускай мытняй. Пра тое, ці магло быць рашэнне іншым, распавядае кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта Гары Паганяйла.**



— Гэта ўжо не першы працэс, падчас якога нашы ўлады ў асобе КДБ будуць спрабаваць даказаць, што тыя ці іншыя матэрыялы, адабраныя на мяжы ці дзе-небудзь яшчэ, з'яўляюцца экстрэмісцкімі, то бок прапагандуюць экстрэмізм альбо ўтрымліваюць заклікі да такой дзейнасці. Магу сказаць упэўнена: у гэтым альбоме, які я добра прагледзеў, няма нічога экстрэмісцкага. Там няма ні заклікаў да звяржэння канстытуцыйнага ладу гвалтоўным чынам, ні момантаў аб расавай перавазе, ні многіх іншых кампанентаў, якія ўтрымлівалі б змест, адпаведны паняццю «экстрэмізм» ці «экстрэмісцкая дзейнасць», адлюстраваны ў нашым заканадаўстве.

Гэты працэс трэба разглядаць у звязку з намерамі ўладаў заглушыць усялякую крытычную думку, заціснуць усю свабоду меркавання, любое незалежнае разважанне пра тое, што сёння адбываецца ў Беларусі.

Напрыклад, сцвярджаецца, што на гэтых здымках у негатыўным святле прадстаўлена рэчаіснасць Беларусі. А што ж негатыўна прадстаўлена? Гэта збядненне нашых грамадзян, п'янства, мілітарызацыя дзяржавы. І робяцца высновы, што гэта ўсё негатыўна ўплывае на чытача, прыніжае ягоны гонар, выстаўляе кепска нашу дзяржаву ў вачах міжнароднай супольнасці, міжнародных арганізацыяў і гэтак далей.

Але калі ў Беларусі ўжываецца больш за 12 літраў чыстага алкаголю за год на аднаго чалавека, то як гэта ўспрымаць? Краіна, нацыя співаюцца, што прызнаюць і нашы эксперты.

Калі ў нас у 2011 годзе здарыўся крызіс, які па сутнасці ў тры разы пагоршыў пакупніцкую здольнасць рубля, калі «згарэлі» назапашванні грамадзян, калі ў нас інфляцыя самая высокая ў Еўропе, калі ў нас больш за мільён грамадзян у пошуках працы выязджаюць за межы краіны, то як да гэтага ставіцца? А як ставіцца да таго, што ў нас каля шасці працэнтаў грамадзян знаходзяцца па-за мяжой жабрацтва? Як ацэньваць гэтыя аб'ектыўныя рэаліі? А што да мілітарызацыі, то хіба нам патрэбна такое вялікае войска? Мы ледзь не шэсць працэнтаў прыбытковай часткі бюджэту выдаткоўваем на падрыхтоўку дзяржавы да вайны. Супраць каго?

Тамукаліфатографы, журналісты адлюстравалі па сутнасці праўду, то як гэта можна ацэньваць як экстрэмісцкую інфармацыю?

Краіне навязваецца адзіная дзяржаўная ідэалогія, паводле якой у нас усё добра, улада легітымная і дзейнічае ў адпаведнасці з законам, у краіне поўнае дабрадзенства і сацыяльны мір, і ўсе тыя, хто імкнуцца парушыць гэты спакой і мір, з'яўляюцца экстрэмістамі. Таму, канешне, пры такой сістэме ўлады, пры такой ідэалогіі, пры такім падаўленні іншадумства любы матэрыял, дзе ўтрымліваецца хоць кропля крытыкі, можна прызнаць экстрэмісцкім.

Нічога дзіўнага, што суд прызнаў, што ў дадзеным выданні прысутнічаюць экстрэмісцкія заклікі, альбо подпісы да фотаздымкаў падводзяць чытача да таго, што ўсё ў нас рэальна вельмі кепска, што гэта зроблена наўмысна, і такім чынам аўтары прыніжаюць наш нацыянальны гонар і годнасць дзяржавы, а гэта, у сваю чаргу, суадносіцца з тымі дзеяннямі, супраць якіх і накіраваны закон аб экстрэмісцкай дзейнасці.

Мы лічым, што гэта наўпроставы замах на свабоду думак, выказванняў, самавыяўлення, на свабоду прафесійнай дзейнасці журналістаў і іншыя свабоды, якія гарантаваныя і замацаваныя ў Канстытуцыі і міжнародных пагадненнях Рэспублікі Беларусь.



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «КРАІНА БЕЛАРУСЬ» ПА-АНГЛІЙСКУ

**У славацкім выдавецтве «Kalligram» (Браціслава) выйшаў у свет англійскі пераклад папулярнай кнігі Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча «Краіна Беларусь» — «This country called Belarus. An illustrated history».**

Аўтар перакладу і ўступнага слова да англамоўных чытачоў — вядомы брытанскі беларусіст прафесар Джым Дынглі.

Ідэя гэтага выдання з'явілася даўно, але набыла рэальныя абрысы, калі ёю натхнілася вядомая грамадская дзяячка Вольга Стужынская.

Кніга ўводзіць у свет нашай мінуўшчыны ад старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя. Гісторыя Беларусі разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага развіцця цывілізацыі. Тэкст суправаджаюць каля дзвюх тысяч ілюстрацый, у тым ліку ўнікальныя летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, рэдкія фотаздымкі. Кніга пераканаўча сцвярджае, што беларусы гістарычна, культурна і ментальна належаць да Еўропы.

Гэта першае англамоўнае выданне такога кшталту, прысвечанае гісторыі Беларусі і створанае беларускімі аўтарамі.

Прэзентацыі кнігі, апрача Мінска, плануецца правесці ў некалькіх еўрапейскіх сталіцах.

Адначасова тое самае славацкае выдавецтва выпусціла рускамоўны пераклад «Краіны Беларусі».

Гэтымі днямі абодва пераклады паступяць у «Акадэмкнігу» ды іншыя кнігарні.

Кнігавыдаўцы мяркуюць, што пераклады кнігі «Краіна Беларусь» не толькі зацікавяць замежных вучоных і дыпламатаў, прадпрымальнікаў і турыстаў, але і значна павялічаць колькасць сяброў нашай краіны.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КУДЫ ЎКЛАСЦІ ГРОШЫ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Вось нарэшце і надышла сапраўдная вясна, вельмі хутка будзе пасяўная. І, як звычайна, увесну пачалася «падтрымка эканомікі». Лукашэнка запатрабаваў ад Нацбанка РБ збіць стаўкі па крэдытах для падтрымкі эканомікі, адзначыўшы, што іншыя інструменты ўжо сябе вычарпалі.**

«Эканоміку трэба падтрымліваць, наколькі гэта магчыма. Але не за кошт усялякіх там абвалаў, дэвальвацый. Гэтага народ ужо не пацерпіць, — заявіў Лукашэнка. — ...Усё больш і больш кіраўнікоў ставяць пытанні па крэдытах. Мы, вядома, купляем у насельніцтва, у іншых вельмі дарагія грошы, дэпазіты пад такі працэнт — гэта вельмі накладна для эканомікі. Таму звярніце на гэта сур'ёзную ўвагу. З цягам часу інфляцыя ў нас не такая ўжо і высокая, і вы таксама павінны свой уклад зрабіць у тое, каб гэтая інфляцыя больш не надзьмувалася, а не толькі ўрад».

«Таму трэба падтрымаць эканоміку, асабліва калі вакол такая неспакойная сітуацыя, і ў эканамічным дачыненні мы маем праблемы з асноўнымі нашымі спажыўцамі, куды мы ажыццяўляем экспарт — Еўрасаюз і Расія», — адзначыў кіраўнік Беларусі.

Што ж, калі Лукашэнка сказаў «трэба», Нацбанк адказаў «ёсць», і 17 красавіка праўленне Нацыянальнага банка Беларусі прыняло рашэнне аб зніжэнні стаўкі рэфінансавання на 1,5 працэнтнага пункта — да 27% гадавых.

У НББ нагадваюць, што ў сакавіку 2013 года прырост спажывецкіх цэн паменшыўся да 1,1%, пры гэтым базавая інфляцыя склала 0,6%, што абумоўлівае досыць высокі станоўчы ўзровень рэальных працэнтных ставак у эканоміцы. «Фактычнае і чаканае далейшае запаволенне інфляцыйных працэсаў на фоне станоўчага сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі і ўстойлівай сітуацыі на ўнутраным валютным рынку дазволіла працягнуць паступовае зніжэнне стаўкі рэфінансавання», — сказана ў прэс-рэлізе галоўнай фінансавай установы краіны.

Але, здаецца мне, хтосьці нас падманвае. Лукашэнка кажа пра праблемы з экспартам па ўсіх асноўных накірунках, а Нацбанк адначасова сцвярджае пра станоўчае сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі. А тым часам зніжэнне стаўкі рэфінансавання звычайна вядзе да таго, што людзі забіраюць грошы ў банках і купляюць на іх валюту. Асабліва ўвесну: назапашваюцца перад адпачынкамі. І менавіта валютны крызіс папярэднічаў дэвальвацыі 2011 года.

Альтэрнатыўныя прагнозы параметраў развіцця краіны не дабаўляюць аптымізму. У той час, як беларускія ўлады прагназуюць рост ВУП у 2013 годзе на 8,5%, а інфляцыю ў межах 12%, больш цвяроза да гэтых паказчыкаў падыходзіць МВФ. Міжнародны валютны фонд прагназуе росту ВУП Беларусі на 2,1% у 2013 годзе, паведамляецца ў Аглядзе сусветнай эканомікі (World Economic Outlook).

Пры гэтым у 2014 годзе, паводле ацэнкі МВФ, рост беларускай эканомікі паскорыцца да 2,6%.

Паказчык інфляцыі (снежань да снежня) па выніках 2013 складзе 20,5%, у 2014 годзе рост спажывецкіх коштаў замарудзіцца да 15,5%.

Дарэчы, большасць беларускіх эканамістаў таксама прагназуюць інфляцыю ў памеры 20% за год. Бо за першую чвэрць года 5,4% інфляцыі мы ўжо маем.

Таму трэба шукаць грошы. Эканомія, беражлівасць і замежныя інвестыцыі — вось што нам дапаможа. І Беларусь пачынае эканоміць на самым для яе святым.

> Міжнародны валютны фонд прагназуе росту ВУП Беларусі на 2,1% у 2013 годзе, паведамляецца ў Аглядзе сусветнай эканомікі (World Economic Outlook)

Беларускія ўлады ў чарговы раз кардынальна змянілі падыходы да пытанняў аказання падтрымкі спартыўным арганізацыям. Лукашэнка выдаў указ, які аптымізуе падтрымку спорту. «Падтрымка будзе ў першую чаргу аказвацца клубам па гульнявых відах спорту, якія ўваходзяць у праграму Алімпійскіх гульняў. Разлічваць на атрыманне падтрымкі з усіх прадугледжаных Указам крыніц змогуць толькі клубы, чые каманды выступаюць у вышэйшых лігах (экстраліга — у хакеі з шайбай)», — гаворыцца ў афіцыйным каментары да ўказа.

Разам з тым, дакументам у мэтах стымулявання «клубаў да павелічэння даходаў ад уласнай гаспадарчай дзейнасці... пашыраны пералік відаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія спартыўныя арганізацыі могуць ажыццяўляць без утварэння камерцыйных арганізацый».

З улікам гэтых новаўвядзенняў плануецца дасягненне да 2015 года мінімум 50-працэнтнай акупнасці дзейнасці клубаў. Указам таксама ўстаноўлена, што на развіццё дзіцяча-юнацкага спорту павінна накіроўвацца не менш за 15% атрыманай падтрымкі.

Лукашэнка таксама ўстанавіў новы парадак прызначэння імянных стыпендый і кантролю за дынамікай вынікаў спартсмена як падставы для працягу выплаты імяннай стыпендыі. Прызначэнне і перагляд імянных стыпендый будзе ажыццяўляцца міжведамаснай камісіяй, якая ствараецца Мінспорту, і штогод пераглядацца па выніках выканання індывідуальнага плану падрыхтоўкі і дасягнення запланаваных вынікаў.

Але ж куды пойдуць гэтыя грошы? Раней яны ішлі на лядовыя палацы. Зараз у беларускіх уладаў з'явілася, здаецца, новая «фішка»: паркі высокіх тэхналогіяў. Яшчэ як след не запрацаваў ІТ ПВТ, яшчэ ідуць размовы пра кітайска-беларускі індустрыяльны парк у Смалявічах, а беларуская ўлады ўжо прапанавалі Ізраілю прыняць удзел у стварэнні 3-га па ліку на тэрыторыі «сінявокай» Парка высокіх тэхналогій, паведаміў амбасадар Ізраіля ў Мінску Іосіф Шагал.

«Парк будзе арыентаваны на аграпрамысловы комплекс, фармацэўтыку, біятэхналогіі. Стратэгічная мэта — выхад на рынак АЭП», — удакладніў дыпламат спецыфіку беларуска-ізраільскага парку. Распрацоўка дакументаў парку завершыцца праз месяц.

Гэткімі тэмпамі хутка свой ПВТ будзе, як лядовыя палацы, у кожным райцэнтры краіны. Але дзе мы на іх знойдзем столькі грошай? Дый сам «парк высокіх тэхналогій», скіраваны ў аграпрамысловы комплекс краіны, выглядае нейкай недарэчнасцю. Бо ў нас і без таго «самая перадавая» краіна ў сельскай гаспадарцы — ці не пра гэта нам кожны раз кажуць на «Дажынках»?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЕНА КУПЧЫНА



Намесніца міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына хутка па колькасці сустрэч з еўрапейскімі партнёрамі пераўзыдзе свайго шэфа Уладзіміра Макея. На мінулым тыдні, калі апазіцыянеры спрачаліся наконт санкцый у Брусэлі, яна ў тым жа Брусэлі правяла перамовы з сябрам Еўрапейскай камісіі па пытаннях пашырэння ЕС і Еўрапейскай палітыкі суседства Штэфанам Фюле, 15 красавіка яна сустракалася з пасламі Германіі, Літвы і часовымі паверанымі Чэхіі і Славакіі. І вось 17–18 красавіка ў Берліне беларуская дэлегацыя на чале з Купчынай прыме ўдзел у міжнароднай канферэнцыі «East Forum Berlin 2013».

У мерапрыемстве прымуць удзел чальцы ўрадаў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, палітычнае кіраўніцтва Германіі, прадстаўнікі Еўракамісіі і топ-менеджмент найбуйнейшых германскіх кампаній і канцэрнаў. А кіраўніца беларускай дэлегацыі прыме ўдзел у панэльнай дыскусіі форума на тэму «Еўрапейскі саюз, Усходняе партнёрства, Еўразійскі саюз — выклікі і магчымасці пагадненняў аб свабодным гандлі і эканамічнай гарманізацыі».

Беларуская дэлегацыя запланавала таксама шэраг сустрэч у Федэральным міністэрстве замежных спраў і Федэральным міністэрстве эканомікі і тэхналогій ФРГ, Германскім саюзе гандлёва-прамысловых палат, з дэпутатамі Бундэстага.

### ЗЯНОН ПАЗЬНЯК



Эмігрант і лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Зянон Пазняк выступіў з даволі нечаканым тлумачэннем сваёй пазіцыі. Здавалася б, паслядоўны барацьбіт за дэмакратыю ў Беларусі павінен падтрымліваць самыя радыкальныя захады ў дачыненні да ўлады. Аднак Пазняк выказаўся рэзка супраць эканамічных санкцый у дачыненні да Беларусі. Па ягоных словах, увесці такія санкцыі — гэта як «у барацьбе з мышамі спаліць гумно».

Палітык нагадаў, што «няма ў гісторыі прыкладаў, калі б эканамічныя санкцыі абвалілі нейкі дыктатарскі рэжым ці неяк пахіснулі яго ўладу. Хутчэй, наадварот. Тым часам удар па грамадстве, па простых людзях зафіксаваны не раз».

Пазняк прапануе пакінуць і ўзмацніць «палітычныя санкцыі супраць антыбеларускага рэжыму, якія выяўляюцца ў забароне ўезду ў заходнія краіны асобам, якія маюць дачыненне да незаконнага пераследу беларусаў і грамадзян Беларусі па палітычных... і нацыянальна-культурных матывах. «Паміж Захадам (Еўрасаюз) і антыбеларускім рэжымам могуць адбывацца» перамовы. «Слова «дыялог» павінна быць выключана тут з палітычнага лексікону. Тэрмін з'яўляецца неадэкватным», — кажа ён.

«У перамовах Захаду з антыбеларускім рэжымам павінна быць выключана магчымасць легалізацыі рэжыму і яго структур узамен за саступкі ў правах чалавека і да т. п. (Саступкі могуць быць вернутыя рэжымам адным махам пасля дасягнення мэты)», — канстатуе Пазняк.

### АЛЕНА ЛАНСКАЯ



Здаецца, беларуская ўдзельніца «Еўрабачання» Алена Ланская вырашыла дапамагчы крызісным краінам еўразоны. Раней паведамлялася, што яе кліп здымаўся ў Турцыі і каштаваў 15 тысяч еўра. Зараз Ланская вырашыла «падтрымаць рублём» Грэцыю.

Сукенка, з якой Ланская плануе выступіць на «Еўрабачанні», робіцца менавіта спецыялістамі Грэцыі. «Прыадкрыю таямніцу: магчыма, калі нічога не зменіцца, то сукенка будзе складацца з 70 тысяч стразаў Сваroўскі», — сказала Алена Ланская падчас анлайн-канферэнцыі на сайце Белтэлерадыёкампаніі.

Гаворачы аб прамацыйным туры, артыстка дадала, што ўжо выступіла ў Румыніі, Малдове, Турцыі, Грэцыі, Нідэрландах, Аўстрыі. У планах — канцэрты ў Расіі і Бельгіі.

«Мы ламаем галаву над тым, як наведаць максімальную колькасць краін, з якіх атрымалі запрашэнне, ушчыльнійшы і без таго наш ужо практычна гумовы графік», — адзначыла Алена Ланская.

Ланской трэба аддаць перамогу на «Еўрабачанні» толькі за адну спробу эканамічнай падтрымкі «праблемных» краінаў еўразоны. Гэта ж колькім людзям яна забяспечыла высокааплатную працу адной толькі сваёй сукенкай!

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧАС ПАТРЭБНЫХ ПЫТАННЯЎ

Сяргей НІКАЛЮК




**З нагоды смерці Маргарэт Тэтчэр у інтэрнэце з'явілася мноства яе выказванняў. Прывяду тое, што найбольш мне спадабалася: «90 працэнтаў нашых хваляванняў датычацца таго, што ніколі не здарыцца».**

Апошнім час я двойчы пабываў на сустрэчах, дзе тыя, хто лічыць сябе палітыкамі, размаўлялі з тымі, хто лічыць сябе палітолагамі. Першыя задавалі другім пытанні. Разнастайныя па форме, усе яны, тым не менш, тычыліся адвечнага: «Што рабіць?»

Варта прызнаць, што інертнасць беларускага грамадства, яго нежаданне адгукацца на палітычныя лозунгі пачынаюць усведамляць у партыйных штабах. Тым не менш надзея на існаванне ў прыродзе "чароўных словаў", здольных кардынальным чынам павялічыць узровень падтрымкі апазіцыі, да канца яшчэ не згасла. Зварот па дапамогу да палітолагаў — відавочнае таму пацверджанне.

Але калі для палітыкаў адказ на пытанне: «Што рабіць?» не відавочны, дык актывісты грамадзянскай супольнасці свой варыянт адказу даўно сфармулявалі: апазіцыі неабходна аб'яднацца вакол «адзінага кандыдата ў прэзідэнты». Менавіта праз аб'яднанне ляжыць шлях да перамогі на выбарах.

## Пра попыт і прапанову

Рашэнне праблемы трансфармацыі беларускага аўтарытарнага рэжыму ў рэжым дэмакратычны, такім чынам, пераводзіцца ў арганізацыйную плоскасць. Выбары «адзінага» — гэта першы і самы важны крок, далей павінен ісці набор фармальных дзеянняў па яго раскрутцы (я, безумоўна, спрашчаю, але не прынцыпова).

Звернемся да расійскага досведу вырашэння падобнай праблемы сродкамі такога ж кшталту. У сакавіку «Левада-Цэнтр» апублікаваў чарговы рэйтынг пазнавальнасці блогера Аляксея Навальнага (працэнт сцвярджальных адказаў на пытанне: «Ці ведаеце Вы, хто такі N?»). З красавіка 2011 года па сакавік 2013-га ён павялічыўся з 6% да 37%. Калі ўлічыць, што ў 70% расіян уяўленне пра тое, што адбываецца, фармуе тэлебачанне і толькі ў 15% — інтэрнэт, то шаснаццаціразовы рост рэйтынгу пазнавальнасці за два гады — гэта несумненны поспех маладога палітыка.

Але рост пазнавальнасці палітыка аўтаматычна не вядзе да росту колькасці яго прыхільнікаў. У табліцы прыведзены адказы не ўсіх апытаных, а толькі тых, хто чуў пра Навальнага. У пераліку ж ад усіх апытаных у красавіку 2011 года за блогера былі гатовыя галасаваць 2% расіян, у сакавіку 2012 года — 5%, у сакавіку 2013 года — усё тыя ж 5%.

Такім чынам, ужо на пачатковым этапе сваёй палітычнай кар'еры Навальны сабраў практычна ўсе галасы сваіх патэнцыйных прыхільнікаў, і далейшая яго раскрутка дадатковай электаральнай падтрымкі не прынесла.

Аляксей Навальны, безумоўна, з'яўляецца харызматычнай асобай. Як апазіцыйны палітык, ён абраў самую рэйтынгавую на сённяшні дзень у Расіі тэму — карупцыю, якой займаецца прафесійна, і дасягнуў на гэтай ніве рэальных поспехаў (пры яго актыўным удзеле развіталіся з дэпутацкімі мандатамі ўжо шэсць расійскіх парламентарыяў). Аднак рэйтынг палітыка-блогера ўпёрся ў столь. Адзначу, што тыя ж 5% сёння ў Беларусі мае Уладзімір Някляеў.

На мой погляд, такое супадзенне рэйтынгаў найбольш папулярных апазіцыйных палітыкаў не з'яўляецца выпадковым. Усе спробы апазіцыі прапанаваць грамадству персанальную альтэрнатыву, як у Беларусі, так і ў Расіі, неэфектыўныя. Ні асабістыя якасці кандыдата, ні тэмы, якія ён спрабуе раскручваць, прынцыпова нічога не мяняюць.

Праблема не ў кандыдатах, праблема ў грамадстве. За чарачкай гарбаты можна доўга дыскутаваць на тэму, хто каго спараджае: прапанова — попыт, ці попыт — прапанову. Аднак практыка ў якасці крытэру ісціны адназначна сведчыць пра першаснасць попыту.

| КАЛІ Б АЛЯКСЕЙ НАВАЛЬНЫ ВЫСУНУЎ СВАЮ КАНДЫДАТУРУ НА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ, ВЫ Б ПРАГАЛАСАВАЛІ ЗА ЯГО? (У % АД КОЛЬКАСЦІ ТЫХ, ХТО ВЕДАЕ НАВАЛЬНАГА) | | | |
|---|---|---|---|
| Варыянт адказу | 04'11 | 03'12 | 03'13 |
| дакладна так/ магчыма так | 33 | 19 | 14 |
| хутчэй не/ дакладна не | 56 | 63 | 66 |
| цяжка сказаць | 11 | 18 | 21 |

## Пра бягучыя падзеі і сур'ёзныя рэчы

Аднак вернемся да Маргарэт Тэтчэр: «90% нашых хваляванняў датычацца таго, што ніколі не здарыцца». Думаю, што ў гэты працэнт уваходзяць і клопаты пра выбар «адзінага».

Жаданне шукаць не там, дзе страціў, а пад ліхтаром распаўсюджана дастаткова шырока. На чым, да прыкладу, заснавана вера ў неабходнасць пошуку «адзінага»? На ўспрыманні палітычнага працэсу ў Беларусі як супрацьстаяння ўлады і апазіцыі. Аднак гэта памылковае ўяўленне.

Тут я вымушаны ў чарговы раз звярнуцца па дапамогу да культуролага Ігара Якавенкі, паводле якога, палітычная рэфлексія магчымая толькі «ўнутры пэўнай карціны свету, з пазіцыі пэўнай мадэлі агульнагістарычнага працэсу». Стварэць мадэлі і аналізаваць з іх дапамогай бягучыя падзеі — задача палітолагаў, сацыёлагаў і іншых «олагаў». Што да палітыкаў, дык іх стаўленне да гуманітарных ведаў не павінна прынцыпова адрозніваецца ад стаўлення інжынераў да прыродазнаўчых ведаў.

І гэта не пасіўнае стаўленне. Інжынер адначасова з'яўляецца спажыўцом ведаў і іх замоўцам. Гэтак жа ў адносінах да ведаў павінен паводзіць сябе і палітык. Павінен, але не паводзіць. У палітыцы і футболе, у адрозненне ад сапраматэ, разбіраюцца ўсе. І гэта праўда. Іншая справа, што карціна свету, унутры якой адбываецца масавая рэфлексія наконт бягучых палітычных падзей, грунтуецца не на навуковых ведах, а на пабытавых уяўленнях. Палітычны працэс як супрацьстаянне ўлады і апазіцыі — спараджэнне такога кшталту ўяўленняў.

Праілюструю сказанае вышэй пэўнымі прыкладамі. Расійская імперыя, паводле трапнага выказвання рэлігійнага філосафа Васіля Розанава, *«слиняла в два дня»*. Праз 73 гады яе лёс паўтарыў Савецкі Саюз. І, нягледзячы на тое, што партыйныя таварышы марнавалі на сілавыя структуры больш за 50% ВУП, распад «Верхняй Вольты з ракетамі» быў гэткім жа імклівым. Але якую ролю пры гэтым адыграла апазіцыя?

Цікавае пытанне, пагадзіцеся. На яго не адкажаш, калі не выйдзеш за межы пабытавай карціны свету. Аднак, не атрымаўшы адказ на гэта пытанне, бессэнсоўна разважаць пра верагодныя сцэнары развіцця падзей у Беларусі. Магчыма, я не мае рацыю. Бо ўжо 20 гадоў мы жывём у асобнай ад Расіі пясочніцы, і ранейшы механізм распаду дзяржавы для нас ужо не актуальны. Магчыма… Аднак як мы можам пра гэта меркаваць, калі ранейшы механізм намі не адрэфлексаваны?

Зноў працытую: «Усе хочуць каментаваць бягучыя падзеі, ніхто не хоча казаць пра сур'ёзныя рэчы» (Мікалай Злобін, палітолаг). Гаворка пра сур'ёзныя рэчы — гэта гаворка пра карціну свету. У Беларусі пра яе не кажуць, таму што на пабытавым узроўні яна зразумелая, а на ўзроўні сучасных гуманітарных ведаў яна нецікавая. Больш за тое, такія размовы небяспечныя. Спрошчаная карціна свету не проста так паўстала.

## Або добра, або нічога

Штодзённая свядомасць у якасці будаўнічага матэрыялу пры фармаванні карціны свету выкарыстоўвае міфы. Варта адзначыць, што той ці іншы тып міфалагізацыі ўласцівы любому тыпу культурнай свядомасці, нават самаму што ні ёсць рацыянальнаму. Адрозненні тут колькасныя, аднак колькасць, калі дасягае пэўнага крытычнага ўзроўню, здольная спараджаць новую якасць. А гэта якраз наш выпадак.

Паводле культуролага Андрэя Пелiпенкi, «для штодзённай свядомасці — міф, нават у рэдукавана-казачнай форме, служыць не толькі апісаннем свету, але і абаронай ад яго». У глыбіннай аснове ўсякага міфа палягае страх хаосу і, адпаведна, усякая міфалагічная канструкцыя — формула яго пераадолення, спосаб гарманізацыі свету. Як тут ні прыгадаць адзінага палітыка (АП), сам факт з'яўлення якога быў спароджаны запатрабаваннем масавай свядомасці абаранiцца ад хаосу пачатку 90-х гадоў.

Папулярнымі (татальнымі) могуць быць толькі тыя міфы, якія працуюць на спрашчэнне. У аснове галоўнага савецкага міфа ляжала ўяўленне пра варожасць капіталістычнага Захаду да «першай у свеце дзяржавы працоўных і сялян». Ён на зразумелай для абывацеля мове тлумачыў неабходнасць гіганцкіх выдаткаў на абарону і спрыяў успрыманню пастаянных пабытавых цяжкасцяў як часовых.

Руйнаванне галоўнага савецкага міфа пад ціскам «матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў савецкага народа», якія ўвесь час нараталі, і разбурыла СССР. Як тут ні прыгадаць фразу з фільма «Дыяментавая рука»: *«Сеня, а ты Кока-колу пил?»*. Гэта, на першы погляд, палітычна нейтральная фраза фіксавала замену міфа «Захад — крыніца смяротнай пагрозы» на міф «Захад — крыніца дармавых матэрыяльных выгодаў».

Аднак вернемся да родных асін. Міф пра палітычны працэс у Беларусі як супрацьстаянне ўлады і апазіцыі падвышае статус тых, хто адкрыта супрацьстаіць уладзе, і адначасова паказвае апазіцыйнай частцы беларускага грамадства на крыніцу іх дыскамфортнага стану. Зразумела, што гэта крыніца максімальна персаніфікаваная.

Нічога новага ў такой спрошчанай (і, адпаведна, максімальна аддаленай ад рэальнасці) карціне свету няма. Як тут ні прыгадаць ідэю гісторыка Аляксандра Ахіезера пра асноўную памылку масавай свядомасці — веру ў начальніка, які здольны аднаасобна вырашаць усе праблемы грамадства. Няцяжка заўважыць, што вера ў «адзінага кандыдата» паходзіць з той ж крыніцы.

Тым часам трансфармацыі аўтарытарных рэжымаў у рэжымы дэмакратычныя нідзе і ніколі не здзяйсняліся выключна за кошт арганізацыйных высілкаў партыйных актывістаў. Для вырашэння сацыякультурных праблем (а гэта сацыякультурная праблема ў чыстым выглядзе) неабходны суб'ект іншага маштабу. У такой якасці можа выступаць толькі грамадства.

У адрозненне ад заходняга грамадства, беларускі аналаг, як спрынтар, здольны праяўляць палітычную суб'ектнасць толькі на кароткіх гістарычных адрэзках. Пералік абавязковых умоваў, якія спрыяюць пераходу грамадства з аб'ектнага ў суб'ектны стан, — адна з ключавых тэм гаворкі «пра сур'ёзныя рэчы». Аднак, як адзначалася вышэй, «пра сур'ёзныя рэчы» казаць у нас не прынята. Тут, як пра нябожчыка, — або добра, або нічога.

І напрыканцы працытую Уладзіміра Высоцкага: *«А мы все ставим каверзный ответ и не находим нужного вопроса»*. З пастаноўкі патрэбных пытанняў і варта пачынаць любую справу, зразумела, калі мы плануем займацца справай сур'ёзна.

ЭКАЛОГІЯ

# ПРАГРАМА ПАГЛЫБЛЕННЯ НАСТУПСТВАЎ ЧАРНОБЫЛЯ

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Беларускі ўрад штогод рапартуе пра вялікія выдаткі на пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Маўляў, глядзіце, якія сродкі мы трацім на сацыяльна-экалагічныя мэты.**

Дзяржаўнай праграмай на 2011–2015 гады плануецца выдаткаваць больш за 6 трыльёнаў 830 мільярдаў рублёў (гэта на момант зацвярджэння праграмы 31 снежня 2010 года), або прыкладна 2,3 мільярда долараў.

## Улада ў хаўрусе з атамным лобі

Давайце разгледзім, на што ж выдаткоўваюцца гэтыя мільярды? Вось што напісана ў праграме:

«У аснове дзяржаўнай палітыкі па пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС — пераход ад пасляаварыйных рэабілітацыйных мерапрыемстваў да аднаўлення і далейшага сацыяльна-эканамічнага развіцця пацярпелых рэгіёнаў, стварэння ў іх больш прывабных умоваў для жыццядзейнасці. ...Эфектыўнае выкарыстанне забруджаных радыенуклідамі тэрыторый з'яўляецца актуальнай задачай, якая патрабуе рашэння праз рэалізацыю спецыяльных інавацыйных праектаў, накіраваных на развіццё пацярпелых рэгіёнаў, стварэнне вытворчасцяў, якія забяспечваюць распрацоўку і выпуск самаакупальнай і рэнтабельнай прадукцыі».

То бок замест таго, каб выдаткоўваць сродкі на аздараўленне дзяцей, будаўніцтва сучасных медыка-рэабілітацыйных цэнтраў, закупляць неабходнае абсталяванне для анкалагічных дыспансераў, мы прыдумляем спосабы прыстасоўваць забруджаныя тэрыторыі для выкарыстання. Пытанне: навошта? Маўляў, каб было.

І гэта нягледзячы на тое, што знаходжанне на забруджаных землях — небяспечнае для здароўя і жыцця. Пры гэтым афіцыйна (глядзі нацыянальны даклад Рэспублікі Беларусь «Чвэрць стагоддзя пасля катастрофы: вынікі і перспектывы пераадолення») прызнаецца сувязь уздзеяння чарнобыльскай радыяцыі толькі з ракам шчытападобнай залозы.

Хаця ў кнізе «Чарнобыль: наступствы катастрофы для чалавека і прыроды» сабраны разам звесткі з разнастайных навуковых публікацый пра Чарнобыль. Аўтары — член-карэспандэнт Расійскай акадэміі навук Аляксей Яблакаў, кіраўнікі інстытута «Белрад» Васіль і Аляксей Несцярэнкі, кандыдат біялагічных навук Наталля Праабражэнская — пераканаўча паказваюць: на ўсіх забруджаных чарнобыльскімі радыеактыўнымі ападкамі тэрыторыях Беларусі, Украіны і Расіі назіраўся заўважны рост агульнай колькасці захворванняў ды выпадкаў інваліднасці.

Сярод іншага, былі распаўсюджаны захворванні органаў кровазвароту, эндакрыннай сістэмы, імуннай сістэмы, органаў стрававання. Расла колькасць анкалагічных захворванняў, парушэнняў працэсаў рэпрадукцыі, прыроджаных парокаў і анамалій развіцця — і гэты пералік далёка не поўны.

Але, згодна з афіцыйнай пазіцыяй урада Беларусі, прычыны гэтых хваробаў... псіхалагічныя. Ва ўжо згаданым нацыянальным дакладзе сцвярджаецца, нібыта прыгнечаны псіхалагічны стан людзей, што жывуць на забруджаных землях, выкліканы не веданнем імі рэальнай радыяцыйнай небяспекі, а «выступамі сродкаў масавай інфармацыі, наяўнасцю розных інфармацыйных плыняў». То бок ва ўсіх хваробах вінаватыя не наступствы катастрофы, не абыякавасць уладаў да здароўя грамадзян, а журналісты (і, напэўна ж, не дзяржаўныя).

«Не валодаючы дастатковымі ведамі ў галіне радыяцыйнай бяспекі, звязваюць большасць хваробаў нават з самымі нізкімі ўзроўнямі выпраменьвання, насельніцтва спараджае міфы пра шкоднасць пражывання на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі, што ў выніку прыводзіць да «ўтрыманства» і непрадукцыйнага ладу жыцця». Калі перакласці на нармальную мову, дзяржава нам кажа, што занадта шмат дае грошай «розным там ліквідатарам і пацярпелым».

Трэба агаварыцца: такі падыход быў распрацаваны не ў Беларусі. Дзеля яго прымянення ў нашай краіне шмат папрацавалі «адмыслоўцы» з МАГАТЭ, Сусветнага банку, стваранага французскай ядзернай індустрыяй цэнтра CEPN ды іншых арганізацый. Але беларускі ўрад радасна яго падхапіў. У тым ліку таму, што рыхтаваў ідэалагічную кампанію для будаўніцтва АЭС. Працаўнікі атамнай энергетыкі назвалі гэткі падыход «чарнобыльскім рэвізіянізмам».

## Замест анкацэнтраў — цёлкі

Як можна пабачыць, асноўным накірункам чарнобыльскай палітыкі ўраду Беларусі з'яўляецца гаспадарчае засваенне радыяцыйна забруджаных земляў. Тут можна выдзеліць некалькі кірункаў.

Асноўны з іх — сельская гаспадарка. Аўтары праграмы лічаць неабходным «забяспечыць далейшую вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі [...] на тэрыторыі радыеактыўнага забруджання». «На развіццё сельскай гаспадаркі (будаўніцтва жывёлагадоўчых аб'ектаў для сельскагаспадарчых арганізацый, 




размешчаных на забруджаных тэрыторыях)» плануецца накіраваць 311 мільярдаў 365,3 мільёнаў рублёў (у коштах 2010 года). Што гэта значыць? А тое, што 311 мільёнаў долараў закапваюць у зямлю. Бо тое, што вырошчваецца на гэтых землях, чалавек, які хваліецца пра сваё здароўе, не будзе есці яшчэ некалькі сотань гадоў. І гэта ўжо не кажучы пра тое, колькі з гэтых грошай будзе расцягнута чыноўнікамі і кіраўнікамі розных узроўняў.

На гэтыя грошы ў Нараўлянскім раёне (адным з самых забруджаных) для «ўкаранення інавацыйных тэхналогій у развіццё племянной базы мяснай жывёлагадоўлі на КСУП «Брацтва» было закуплена 300 галоваў племянных цёлак.

У праграме адкрыта напісана, што «плануецца актывізаваць працу па вяртанні ў гаспадарчае выкарыстанне выведзеных з абароту земляў».

Складальнікі дзяржаўнай праграмы брава рапартуюць пра мінулыя поспехі: «З 2000 па 2010 год плошча забруджаных цэзіем–137 сельскагаспадарчых земляў зменшылася на 21 працэнт (з 1297 тысяч да 1021,2 тысячы гектараў)».

Перыяд паўраспаду цэзію–137 складае каля 30 гадоў. Толькі праз 10 перыядаў паўраспаду (для цэзію–137 — 300 гадоў) небяспека апраменьвання змяншаецца да мінімальнага ўзроўню, але і тады не знікае цалкам. Адпаведна, цэзій–137 ніяк не можа «выпарыцца» за 10 гадоў. Адзіны спосаб так хутка скараціць колькасць забруджаных земляў — адміністрацыйны. Што ж, поспехі трэба замацаваць: «Дзяржаўнай праграмай прадугледжваюцца мерапрыемствы па далейшым зніжэнні плошчы і ўзроўню забруджання сельскагаспадарчых земляў».

## 10 мільёнаў долараў на прапаганду

Другі кірунак «гаспадарання» ў радыеактыўных раёнах — лясная гаспадарка, у якой неабходна «рэалізаваць дадатковыя мерапрыемствы па рацыянальным выкарыстанні лясных рэсурсаў на забруджаных тэрыторыях». Плануецца лесаразвядзенне і лесаўзнаўленне на найбольш забруджаных землях (15 кюры на км² і вышэй), нібы «для пазбягання распаўсюду радыенуклідаў». Але не дайце сябе падмануць. Некалькімі абзацамі пазней напісана: «Каб максімальна механізаваць работы падчас рубак у зоне забруджання 15–40 кюры/км², найбольш забруджаныя лягсасы плануецца забяспечыць сучаснай лесанарыхтоўчай тэхнікай (форвардэры, харвестэры), транспартам для дастаўкі работнікаў, домікамі для абагрэву і харчавання».

То бок новыя пасадкі лесу робяцца адно для таго, каб праз некалькі дзесяцігоддзяў ссячы спелыя дрэвы і прадаць радыеактыўную драўніну. Ведома, вырубка і продаж радыеактыўнага лесу ідзе і зараз пры актыўнай падтрымцы атамнага лобі. У 2012 годзе завяршыліся пастаўкі ў Беларусь абсталявання па праграме МАГАТЭ «Падтрымка лесаводства на тэрыторыях, што падпалі пад радыеактыўнае забруджанне ў выніку чарнобыльскай аварыі».

Надаецца таксама ўвага пашырэнню і рэканструкцыі прамысловых прадпрыемстваў, ладная частка якіх займаецца перапрацоўкай мясцовай сельскагаспадарчай і ляснай сыравіны. Відаць, згодна з задумай стваральнікаў дзяржаўнай праграмы, гэта павінна стварыць новыя працоўныя месцы, і такім чынам здымаць сацыяльную напружанасць. Але нашто ствараць новыя працоўныя месцы менавіта ў «брудных» рэгіёнах, калі ў нашай небагатай краіне дастаткова ўмоўна «чыстых» рэгіёнаў з высокім рэальным, а не афіцыйным беспрацоўем?

10 мільярдаў 135 мільёнаў рублёў (у коштах 2010 года) адведзена на «інфармацыйна-ідэалагічную работу», мэта якой — «спрыянне адраджэнню і развіццю тэрыторый, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, шляхам выхавання сацыяльна актыўнага чалавека, які быў бы гатовы ўдзельнічаць у працэсе адраджэння, а таксама фармаванне адэкватнага стаўлення насельніцтва незабруджаных тэрыторый Рэспублікі Беларусь і сусветнай супольнасці да пацярпелых раёнаў».

Ужо даўно не вядзецца гаворка пра магчымасць перасялення ад радыяцыі. Наадварот, праграма прадугледжвае будаўніцтва жылля ў забруджаных раёнах, каб замацаваць спецыялістаў, што прыехалі адпрацоўваць па размеркаванні.

## Вярнуцца хаця б на ўзровень 1991 года

Трэба прызнаць, што дзяржаўнай праграмай усё ж прадугледжана выдзяленне сродкаў на сапраўды неабходныя мерапрыемствы — наданне льгот і кампенсацый (там, дзе яны яшчэ не ліквідаваныя), некаторыя медычныя праграмы, радыелагічны кантроль і маніторынг. Але асноўны накірунак праграмы вядзе ў процілеглы бок — не на змякчэнне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, а на іх узмацненне і паглыбленне. А менавіта: на яшчэ большае пранікненне радыенуклідаў у ежу і лясную прадукцыю, паўторнае засяленне чарнобыльскіх раёнаў і адмаўленне радыяцыйнай небяспекі.

Нездарма ўдзельнікі «Чарнобыльскага шляху–2013» зноў патрабуюць аднавіць дзеянне закона 1991 года «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», а таксама прыняць рэальныя меры па яго ажыццяўленні, у тым ліку праз забеспячэнне магчымасці для перасялення людзей з радыяцыйна забруджаных тэрыторый і спыненне іх гаспадарчага выкарыстання.

«Сорамна нават заікацца пра «шчодрасць» сістэмы сацабароны пасля таго, як нават вельмі слабыя спробы абараніць пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, зробленыя ў Законе ад 1991 года, былі практычна зведзены да нуля вядомым указам кіраўніка дзяржавы. Спроба адміністрацыйнымі рашэннямі ператварыць забруджаныя землі ў «чыстыя» і ўгаварыць людзей вярнуцца на гэтыя землі накіравана на тое, каб канчаткова адмахнуцца ад найсур'ёзных і найнебяспечных праблем людзей, пацярпелых ад Чарнобыля. Гэта гульня супраць грамадзян краіны на карысць атамнага лобі, якое ўсё больш губляе свае пазіцыі па ўсім свеце, — падкрэслівае сябра аргкамітэту руху «За бяз'ядзерную Беларусь», фізік, прафесар Георгій Лепін. — Як і будаўніцтва АЭС у Беларусі — самай пацярпелай у свеце краіны — накіравана не толькі на шкоду народа краіны, але і з'яўляецца адкрытай падтрымкай МАГАТЭ. Расія актыўна штурхае Беларусь на смяротна небяспечны для яе шлях, каб не застацца адной (з кампаніяй недаразвітых краін, якія рвуцца да атамнай зброі) ва ўмовах, калі большасць цывілізаваных краін рашуча пакідае брудНае праядзерНае зборышча».

## 26 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна). 4-я серыя.
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Канцэрт.
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нябачны фронт.
**13.10** Рэальны свет.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна).
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна). 4-я серыя.
**19.20, 22.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дыялогі пра цывілізацыю.
**23.20** Дзень спорту.
**23.30** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець.Прабачыць».
**17.00** «Народная медыцына».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».
**22.45** Прэм'ера. Фільм «Бедуін».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Гэтым вечарам анёлы плакалі». Расія, 2008 г.
**15.30** «Хораша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «1/8 фіналу Першай лігі МС КВЗ».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**23.55** «Баец». Серыял.
**00.45** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.35** Фільм «Страшны суд». Вялікабрытанія - Вугоршчына, 2006 г.
**03.30** «Глядзець усім!».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўная меладрама «Сяброўка адмысловага прызначэння» (Расія). 2-я серыя.
**10.20** Час футболу.
**11.10** Меладраматычны серыял «Двайняты» (Расія). 7-я і 8-я Серыі.
**13.10** «Бацькі і дзеці» («Беларусьфільм»). 4-я серыя, заключная.
**14.35** Дакументальны фільм «І дарога паволі зарастае.».
**15.00** Драма «Я памятаю.» («Беларусьфільм»).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Авантурная камедыя «Залаты ключык» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэніс. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**23.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.25** Арэна.
**00.55** Фактар сілы.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Правa на сустрэчу».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Нялюбы».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Фільм «Маўкун» (2007 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія жонкі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** «Таямнічая Расія».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.55** Вострасюжэтны баявік «Зброя».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** Мультфільмы.
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў пошуках смаку».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Народы Расіі».
**10.00** М/ф «Перш, чым растацца».
**11.30** «На шашлыкі».
**12.25, 01.40** «Сардэчна запрашаем».
**12.55, 02.05** М/ф «Недарэчы».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Індзі».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** Бенефіс Я. Шыфрына.
**00.05** Т/с «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**03.55** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Горад з мора», серыял: 4 серыя.
**10.55** «Чарнобыльскі шлях прафесара Бандажэўскага», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**11.15** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**11.45** Студыя «Белсат».
**13.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.45** Аб'ектыў.
**14.10** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** «Горад з мора», серыял: 4 серыя.
**15.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**16.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**16.40** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**17.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Чарнобыльскія званы», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**22.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 27 КРАСАВІКА, СУБОТА

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.00** Лірычная камедыя «Будзьце маім мужам» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Камедыя «Трыццаць тры» (СССР).
**13.50** Дакументальны фільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Фантастычны трылер «Знакі» (ЗША).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Меладрама «Там, дзе жыве каханне» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фантастычны баявік «Сурагаты» (ЗША).
**23.20** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Прэм'ера. «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** Камедыя «Іронія лёсу.».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Працяг фільма «Іронія лёсу.».
**17.05** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**17.55** Прэм'ера. «Юры Якаўлеў. «Цар. Вельмі прыемна!».
**18.55** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** Прэм'ера. Трылер «Мілыя косткі».

### СТВ

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Руі Блаз». Францыя, 2002 г.
**09.40** «Уявіце сабе».
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Трын-трава». СССР, 1976 г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Кахаць па-руску 3: губернатар». Расія, 1999 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Прэм'ера. Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2010 г.
**22.30** «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.45** «Дзіўная справа».
**00.40** Фільм «99 франкаў». Францыя, 2007 г.
**02.25** «Дурні, дарогі, грошы».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.40** Мультфільм «38 чыюкоў» (СССР).
**08.20** Камедыйны фільм-казка («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**09.30** Пазакласная гадзіна.
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** Камедыя «Паварот лёсу» (ЗША).
**12.00** Наперад у мінулае.
**12.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.10** Беларуская кухня.
**13.45** Мазгавы штурм.
**14.20** Футбол. Чэмпіянат свету 2014.
**14.50** Авантурная камедыя «Залаты ключык» (Расія).
**17.15** Драма «Варашылаўскі стралок» (Расія).
**19.10** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Імперыя песні.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Крымінальная драма «Казіно» (ЗША - Францыя).
**00.15** Вышэй за дах.
**00.45** Тэніс. Жанчыны. 1/2 фіналу.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Моцная слабая жанчына» (2010 г.).
**08.40** Фільм «Калі квітнее бэз» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.25** Фільм «Мытня».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Сусветны патоп як прадчуванне».
**15.45** Фільм «Кветкі ад Лізы» (2010 г.). 1-я серыя.
**17.35** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Мая любімая пачвара» (2012 г.).
**00.00** Фільм «Зарок маўчання» (2011 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**15.10** «Судовы дэтэктыў».
**16.20** «Следства вялі.».
**17.15** Серыял «Мент у законе».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны серыял «Мент у законе».
**21.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.05** «Ты не паверыш!».
**23.00** Вострасюжэтны фільм «Б.С. Былы супрацоўнік».
**00.35** «Прамень святла».
**01.05** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Д/ф «Дзяржаўны Эрмітаж».
**05.35** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10** М/ф «Трыццаць першае чэрвеня».
**12.40** М/ф «Індзі».
**15.10** «Па шчырасці».
**15.40, 23.20** Т/с «Атлантыда».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.50** М/ф «Рок - ашуканцы».
**22.45** «Музычны ілюмінатар».
**03.45** М/ф «Дзяўчына спяшаецца на спатканне».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю правa (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.45** Казкі для дзетак: «Падарожжа Цюхці, поўнае прыгодаў», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры Яблыкі», «Пацюкі».
**12.10** «Горад з мора», серыял: 4 серыя.
**12.55** «Час гонару», серыял: 25 серыя.
**13.45** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**14.35** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Забойцы».
**15.20** «Кніга рэкордаў Шуткі», дак. фільм, 2005 г., Сербія–Чарнагорыя–Чэхія–Славакія.
**16.40** «Чарнобыльскія званы», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**17.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 17 серыя.
**18.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**18.55** «Доўгае падарожжа цераз гісторыю Балканаў», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**19.00** «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**20.00** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 28.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**23.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.20** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 28 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.25** Камедыя «Трыццаць тры» (СССР).
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Лірычная камедыя «Будзьце маім мужам» (СССР).
**13.55** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Анімацыйны фільм «Алёша Паповіч і Тугарын Змей» (Расія).
**16.55** Заўтра - гэта мы!
**17.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.25** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна). Заключная серыя.
**19.20** Камедыя «Мымра» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Фанаграма запалу» (Расія).
**00.20** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

**Н**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.30** «Зваротны адлік».
**13.15** Прэм’ера. Намаляванае кіно. «Як прыручыць цмока».
**15.00** «Асяроддзе пасялення».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя.
**18.10** Фільм «Ходзяць чуткі».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.10** Камедыя «З’яўляецца Данстан».

**СТВ**

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Тры метры над узроўнем неба». Іспанія, 2010 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Бывай, шпана замаскварэцкая». СССР, 1987 г.
**14.35** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.55** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм’ера. Фільм «Паляўнічы». Аўстралія, 2011 г.
**22.35** Прэм’ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.55** Фільм «Татуяванне ў выглядзе матылька». Нідэрланды, 2009 г.
**01.40** «Дурні, дарогі, грошы».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.40** Мультфільм «38 чыюкоў» (СССР).
**08.25** Камедыйны фільм-казка («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**09.30** Пазакласная гадзіна.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Пра мастацтва.
**10.25** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**13.30** Драма «Варашылаўскі стралок» (Расія).
**15.35** Хакей для ўсіх.
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм’ерліга. Арсенал - Манчэстар Юнайтэд. У перапынку **21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**22.05** Навіны надвор’я.
**22.40** Гандбол. 1/2 фіналу. Мужчыны.
**00.10** Спорт-кадр.
**00.55** Тэніс. Жанчыны. Фінал.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Мая любімая пачвара» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Камедыя «Дванаццатая ноч».
**14.00** Весткі.
**14.15** «PROтурызм».
**14.30** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.25** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.55** Фільм «Кветкі ад Лізы» (2010 г.). 1-я серыя.
**17.55** «І гэта ўсё яна». Юбілейная праграма. Частка 2-я.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Каханне з прабіркі» (2013 г.).
**23.30** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.15** Фільм «Служу Айчыне!».
**15.05** Вострасюжэтны фільм «Знайдзі мяне».
**16.50** Выратавальнікі.
**17.25** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Вострасюжэтны серыял «Марскія д’яблы».
**23.10** «Жалезныя лэдзі».
**00.00** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.
**00.40** «Першая кроў».

**МИР**

**05.00** Д/ф «Дзяржаўны Эрмітаж».
**05.35** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 01.20** М/ф «Родныя людзі».
**13.35, 05.20** Д/ф «Сталіца сяброўства і цяпла».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Паляўнічыя за абразамі».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**23.30** М/ф «Змова».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб’ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 17 серыя.
**08.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.20** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Без рэтушы: «Крыжовы шлях сям’і Радчанкаў», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал.
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 17 серыя.
**12.30** «Час гонару», серыял: 26 серыя.
**13.25** «Ночы і дні», серыял: 10 серыя.
**14.20** «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**15.15** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**15.25** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Ветах».
**15.40** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Асаблівы вязень».
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Кухня», дак. фільм, 2001 г., Расія.
**20.20** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**00.45** Відзьмо-невідзьмо: выд. 28.
**01.15** Два на два (тэледыскусія).
**01.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Мінск (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Всего ________
Кассир

ГЕАПАЛІТЫКА

# АЗЕРБАЙДЖАН ДАЛУЧЫЦЬ ІРАН

Алег НОВІКАЎ

**Каб адцягнуць увагу ад сацыяльна-эканамічных праблем напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, улады Ірана і Азербайджана разыгрываюць нацыяналістычную карту.**



Усё пачалося з нявінных сустрэч гісторыкаў. Увосень мінулага года ў Турцыі і Азербайджане праходзілі гістарычныя канферэнцыі, прысвечаныя лёсу Паўднёвага Азербайджана — часткі паўночна-заходняга Ірану, дзе жывуць этнічныя азербайджанцы. Практычна ўсе ўдзельнікі пасяджэнняў адкрыта выступілі з тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі да Ірану, патрабуючы ўз'яднання гістарычнай вобласці Ірана пад назвай Азербайджан з Азербайджанскай Рэспублікай, што, паводле іх заяў, павінна скончыцца стварэннем «Вялікага Азербайджана». Тым больш, паводле меркавання выступоўцаў, Іран перажывае самы востры крызіс з пачатку XX стагоддзя, і ўсе рэгіянальныя і глабальныя фактары працуюць супраць тэгеранскага рэжыму.

Тэгеран, відавочна, быў не ў захапленні ад такога аналізу сітуацыі і даслаў у Баку фармальную ноту пратэсту. Пры гэтым чамусьці ў тэксце дакумента перапала і Ізраілю, які, быццам, неяк звязаны з арганізацыяй тых сустрэч гісторыкаў. Баку на пратэсты адказаў вельмі тактычна, заявіўшы, што агучанае на канферэнцыі не адпавядае афіцыйнай пазіцыі Азербайджана. Праўда, шэраг азербайджанскіх палітыкаў мяркуюць, што могуць дазволіць сабе арганізоўваць любыя канферэнцыі на іранскую тэматыку ў сувязі з тым, што Іран падтрымлівае кантакты з Арменіяй.

Пакуль дыпламаты займаліся карэспандэнцыяй, на сцэну нечакана выйшлі журналісты. Шэраг афіцыйных іранскіх выданняў прапанавалі правесці ў Азербайджане рэферэндум пра далучэнне Азербайджанскай Рэспублікі да Ірана. Неабходнасць плебісцыту тлумачыцца наступным чынам: «10 мільёнаў насельніцтва Азербайджанскай Рэспублікі складаюць мусульмане-шыіты. Пасля распаду Савецкага Саюза яны жадаюць вярнуцца ў сваю ранейшую цывілізацыю. З тых часоў насельніцтва Азербайджана лічыць Іран выканаўцам сваіх інтарэсаў, супольнасцю, штучна адарванай ад Ірана. Нягледзячы на тое, што пасля распаду Савецкага Саюза сіяністы дасягнулі некаторага ўплыву ў Азербайджане, яны не змаглі знішчыць цягу насельніцтва да Ірана. Наадварот, варожасць сіяністаў да мусульманскіх народаў узмацніла тэндэнцыю аб'яднання насельніцтва Азербайджанскай Рэспублікі з іранцамі».

Калі варыянт з інкарпарацыяй не атрымаецца, дык, паводле меркавання іранскага афіцыёзу, можна прапанаваць ураду Азербайджанскай Рэспублікі правесці рэферэндум пра стварэнне ў краіне палітычнай сістэмы, аналагічнай іранскай, у выглядзе Азербайджанскай Ісламскай Рэспублікі.

Пакуль на берагах Каспія прыходзілі ў сябе ад такой нахабнасці, з'явілася новая інфармацыя пра тое, што некалькі чальцоў іранскага парламента працуюць над законапраектам, у якім прадугледжваецца перагляд і адмова ад выканання пунктаў Туркманчайскай мірнай дамовы 1828 года, а таксама ўз'яднанне азербайджанскіх тэрыторый з Іранам. «Улічваючы заканчэнне тэрміну дамовы, падпісанай з Расіяй у 1828 годзе, Іран мае права перагледзець гэты дакумент. Мы паспрабуем задзейнічаць усе магчымасці і аднавіць свае правы», — было заяўлена адным з дэпутатаў 9 красавіка на пасяджэнні іранскага парламента.

На думку азербайджанскіх нацыяналістаў, трактат 1828 года раскалоў азербайджанскую нацыю. Дарэчы, спроба аб'яднання азербайджанцаў мела месца пасля вайны, калі Сталін стварыў марыянетачны прасавецкі ўрад Паўднёвага Азербайджану, Масква дапускала магчымасць «уз'яднання» азербайджанцаў па мадэлі, скарыстанай восенню 1939 года адносна Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У архівах знойдзеныя ідэалагічныя распрацоўкі для пачатку працэсу далучэння Паўднёвага Азербайджана. Цікава, што ў пракламацыях нават Тэгеран называецца азербайджанскім горадам. Аднак рэалізаваць праект з-за эскалацыі халоднай вайны не атрымалася.

Як, на вашу думку, сустрэлі навіну пра іранскую спробу рэвізіі дамовы 1828 года ў Баку? Не паверыце — на ўра. «Абмеркаванне ў парламенце Ірана пытання пра перагляд Туркманчайскай дамовы цешыць Азербайджан», — заявіў адзін з лідараў афіцыйнай партыі «Ені Азербайджан». На думку «Ені Азербайджан», пасля прызнання дамовы 1828 года не дзеючай, этнічныя азербайджанскія землі аўтаматычна могуць «быць уключаныя ў склад адзінай азербайджанскай дзяржавы, для чаго ўзнікаюць усе юрыдычныя падставы».

Аднак сепаратызм паўночных тэрыторый — гэта не самае горшае, што пагражае Ірану. Аказваецца, у 1828 годзе ўлада ў Іране знаходзілася ў руках азербайджанцаў. Адна з ключавых асобаў, якая падпісала дамову, — каранаваны прынц Абас Мірза — мае гістарычныя азербайджанскія карані. У Баку лічаць, што гэта дае падставы лічыць Туркманчайскую дамову азербайджанскай, а не іранскай у сэнсе легітымнасці.

Працытуем аднаго з азербайджанскіх нацыяналістаў: «Калі давядзецца перагледзець дадзеную дамову, тады давядзецца далучыць Іран да Азербайджана, а кіраванне самім Іранам прыйдзецца перадаць азербайджанцам».

На думку палітолагаў, сакрэт такога жадання гуляць у альтэрнатыўную гісторыю, што ахапіла частку эліты ў Баку і Тэгеране, вельмі просты. Па меры набліжэння прэзідэнцкіх выбараў у Іране (14 чэрвеня) і Азербайджане (16 кастрычніка) улады абедзвюх краін адмыслова арганізуюць на інфармацыйным полі рознага кшталту нацыяналістычныя правакацыі, мэта якіх — абудзіць патрыятычныя пачуцці сярод простых людзей і пасунуць на другі план балючыя сацыяльна-эканамічныя пытанні.



Так, у лютым кандыдат у прэзідэнты Ірана аятала Махамад Багер Харазі заявіў, што, калі ён стане наступным кіраўніком краіны, то Таджыкістан, Арменія і Азербайджан будуць «вернутыя» Ірану. Заклік выклікаў гнеўны адказ з боку міністэрства замежных спраў Таджыкістана, які ацаніў заяву Харазі як «выказванні інтрыгана і невука».

У гэтай гісторыі ёсць яшчэ адна цікавая дэталь. Усе разборкі паміж Баку і Тэгеранам уважліва адсочвае армянская аналітычная супольнасць. Мяркуючы па ўсім, армянскі палітыкум жадае схапіць азербайджанцаў за руку — зафіксаваць факт таго, што афіцыйны Баку, адстойваючы свае правы на Паўднёвы Азербайджан, узгадае пра права нацый на самавызначэнне. У такім разе стварэнне на тэрыторыі Азербайджана Армянскай Нагорна-Карабахскай рэспублікі выглядае справядлівым актам. Баку заўсёды надаваў у карабахскім пытанні перавагу такому прынцыпу міжнароднага права, як непарушнасць межаў, і адмаўляў прынцып права нацый на самавызначэнне.

**Даведка:**

Туркманчайская мірная дамова, або Туркманчайскі трактат 1828 года, — мірная дамова паміж Расіяй і Персіяй (Іранам), што завяршыла руска-персідскую вайну 1826–1828 гадоў. У выпрацоўцы ўмоў дамовы ўдзельнічаў славуты літаратар Аляксандр Грыбаедаў, аўтар «Гора ад розуму» . Гэты пакт і папярэдняя так званая Гулістанская дамова афармілі ўключэнне ў склад Расіі Дагестана, Грузіі, Імерэцыі, Гурыі, Мінгрэліі, Абхазіі, а таксама ханстваў Карабахскага, Гянджынскага, Шэкінскага, Шырванскага, Дэрбенцкага, Кубінскага, Бакінскага і Талышскага. Усе гэтыя тэрыторыі, якія адышлі да Расійскай імперыі, належалі Ірану, а іх кіраўнікі (ханы) прызначаліся іранскім шахам.

Вызначаная дамовай 1828 года мяжа захавалася і пасля таго, як Расійская імперыя стала СССР. Пасля распаду Савецкага Саюза ў 1991 годзе ўсё тая ж вызначаная ў 1828 годзе дэмаркацыйная лінія стала кардонам паміж Іранам і былымі савецкімі рэспублікамі Азербайджанам і Арменіяй.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На пачатку красавіка Роза Атунбаева, якая ўзначаліла пераходны ўрад пасля звяржэння Бакіева, прызналася, што выпусціла яго з краіны па просьбе прэзідэнтаў Казахстана, ЗША і Расіі. Але тады атрымліваецца, што Лукашэнка — зусім не выратавальнік сямейства Бакіевых. І беларускі пашпарт — зусім не гарантыя бяспекі для сям'і і світы. Пры змене сітуацыі — у Бішкеку ці ў Мінску, у Цэнтральнай Азіі ці ва Усходняй Еўропе — Бакіевы могуць вярнуцца на радзіму адбываць пакаранне.

**«Новая газета» (Расія)**

Аляксандр Лукашэнка на фоне крызісу на Кіпры не раз заяўляў, што да дадзенай сітуацыі ставіцца нейтральна, бо беларуская эканоміка не звязаная з кіпрскімі фінансамі. Аднак падкрэсліў, што з-за банкаўскіх праблем у некаторых еўрапейскіх дзяржавах можа знізіцца беларускіх экспарт, немалая доля якога арыентаваная на Захад. Аналітыкі адзначылі, што разам з устойлівасцю беларускага рубля чарговая дэвальвацыя непазбежная, пытанне заключаецца толькі ў тым, калі яна можа адбыцца.

**«Masterforex-V» (Расія)**

Звярніце ўвагу — перасталі казаць пра эканамічны крызіс у Беларусі. Таму што Беларусь, апроч усяго іншага, атрымлівае газ і нафту па ўнутраных расійскіх цэнах. Умацаваўся «зайчык», які падаў так, што дна не было відаць, стабілізавалася прамысловасць, стабілізаваўся экспарт. А здавалася, што Беларусь чакае лёс Грэцыі або Кіпру, але не — выцягнулі за кошт Расіі. Лукашэнка быў супраць адкрыць усе дзверы для расійскага бізнэсу, паколькі гэта парушала яго манаполію... Лукашэнка пярэчыць, таму што Беларусь, у адрозненне ад Расіі і Украіны, — краіна-карпарацыя, у якой ён сам старшыня савета дырэктараў. А любы старшыня савета дырэктараў карпарацыі не хоча, каб у яе заходзілі знешнія інвестары.

**«Главком» (Украіна)**

Правільныя, здавалася б, справы (рашэнне пра скарачэнне беларускіх чыноўнікаў на чвэрць) не знайшлі адназначнай падтрымкі ў экспертным асяроддзі. Наадварот, у аналітыкаў з'явіліся сур'ёзныя перасцярогі, што рэформа стане чарговай бюракратычнай інсцэніроўкай: падначаленыя зробяць выгляд, што выканалі ўказанне прэзідэнта, які ў сваю чаргу зробіць выгляд, што навёў парадак у сістэме дзяржорганаў. Галоўная праблема беларускай сістэмы дзяржкіравання, падкрэсліваюць палітолагі, не ў колькасці чыноўнікаў (акрамя сілавікоў, іх у Беларусі каля 70 тысяч чалавек), а ў празмернай колькасці функцый, якія за імі замацаваныя. Патрэбныя паўнавартасны аўдыт функцый і сістэмнае пераасэнсаванне іх неабходнасці, а не механічнае зразанне штатаў.

**«Республика-инфо» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛІВІЯ. КАДАФІСТЫ ЗАКЛІКАЮЦЬ КНДР АТАКАВАЦЬ ЗША

Міжнародная арганізацыя «За Кадафі і яго народ» («Зялёны сацыялізм»), якая аб'ядноўвае прыхільнікаў Муамара Кадафі і марыць аднавіць у Лівіі былы рэжым, заклікала КНДР нанесці прэвентыўны ядзерны ўдар па ЗША. «Мы падтрымаем нанясенне прэвентыўнага ядзернага ўдару па ўзброенай да зубоў флатыліі разбойнікаў, калі ўрад братэрскай нам рэспублікі палічыць патрэбным ужыванне гэтага віду зброі для абароны тэрытарыяльнай цэласнасці сацыялістычнай дзяржавы. Нам, як нікому іншаму, зразумела, што спыніць агрэсара на сённяшні дзень здольны толькі магутны ядзерны кулак». На думку падпісантаў, калі б Кадафі ў свой час не адмовіўся ад развіцця лівійскай атамнай праграмы, «была б захавана квітнеючая краіна Афрыкі, у ёй працягвалася б мірнае жыццё, будаваліся б лякарні, школы, дарогі і нават Цуды свету, пад кіраўніцтвам мудрага лідара». Заклік выклікаў шок у той часткі левага руху, які сімпатызуе Паўночнай Карэі. Шмат хто пабачыў у падобных закліках правакацыю, якая дазволіць Захаду самому нанесці ўдар па КНДР. Прысутнічае нават думка пра тое, што групоўка створаная ЦРУ з мэтай дыскрэдытацыі антыімперыялістычнага руху. Аднак ідэя атамнага армагедону шмат каму падабаецца. Некаторыя кадафісты прапануюць арганізацыі пачаць распрацоўку атамнай праграмы ў рамках арганізацыі «За Кадафі», каб пагражаць новаму ўраду Лівіі.

**Паводле замежнай прэсы**

### РАСІЯ. НАВАЛЬНАГА АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У ПЛАГІЯЦЕ

Алег Мітваль — старшыня цэнтральнай рады партыі «Альянс зялёных — Народная партыя» напісаў ліст міністру юстыцыі Расіі. Нагодай для звароту стала спроба стварэння вядомым апазіцыйным блогерам Аляксеем Навальным уласнай арганізацыі з вельмі падобнай назвай: Усерасійская палітычная партыя «Народны Альянс». На думку Мітваля, гэта яўнае парушэнне аўтарскіх правоў. «Назва арганізацыі Навальнага складзена шляхам вынятку двух слоў з наймення ўжо існуючай партыі «Альянс зялёных — Народная партыя», якая актыўна ўдзельнічае ў палітычнай дзейнасці», — паведамляецца ў лісце міністру юстыцыі. На гэтай падставе Алег Мітваль, які лічыць «Народны Альянс» партыяй-спойлерам, запатрабаваў ад Міністэрства юстыцыі спыніць працэс яе рэгістрацыі. Па ацэнках экспертаў, у гэтай спрэчцы Алег Мітваль мае добрыя шанцы на перамогу. Расійская ўлада не любіць Навальнага, таму канчатковае рашэнне будзе не на яго карысць. Застаецца адказаць на пытанне, як Навальны так падставіўся. Ёсць шалёная думка, што пайсці на гэта яго або яго атачэнне падштурхнуў сам Мітваль. Яго праект, нягледзячы на вялікія інвестыцыі, пакуль застаецца малавядомым у грамадстве. Скандал з удзелам Навальнага можа значна ўзняць пазнавальнасць «Альянсу зялёных — Народнай партыі».

**Паводле расійскай прэсы**

### САМОА. ТАЎСТУНЫ МАЮЦЬ ПРАВА ЛЯТАЦЬ

Як і трэба было чакаць, ніякай радасці не выклікала з боку арганізацый, якія абараняюць правы людзей з вялікай вагой, ідэя кампаніі Samoa Air. Цяпер Samoa Air будзе ўзважваць пасажыраў перад вылетам, і тыя, хто важыць занадта шмат, будуць плаціць дадатковую суму. Нічога, акрамя дыскрэдытацыі таўстуноў, арганізацыя тут не бачаць. Падтрымліваюць іх і праваабаронцы, якія бачаць у Samoa Air папросту праяву цынізму. Уявіце эмацыйны стан чалавека, якога ўзважваюць перад пасадкай у прысутнасці натоўпу пасажыраў і на ўсю залу абвяшчаюць таўстуном. Незадаволеныя і сацыяльныя актывісты. Тлустасць — гэта праблема бедных людзей. Як правіла, багатыя пасажыры, каб не саромецца на вагах, проста абяруць іншую кампанію. У сваю чаргу, Samoa Air звяртае ўвагу на тое, што вялікая вага — гэта сацыяльная праблема на Самоа. Маўляў, акцыя кампаніі будзе спрыяць таму, каб грамадзяне ўзгадалі пра пагрозу, якую нясе здароўю вялікая вага.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. НАРОДНЫЯ СПАБОРНІЦТВЫ – У АЛІМПІЙСКУЮ ПРАГРАМУ




Алімпіяда ў Сочы, якая пройдзе ў наступным годзе, — першая алімпіяда на тэрыторыі былога СССР пасля маскоўскіх алімпійскіх гульняў 1980 года. Не выпадкова яна выклікала дыскусію ў тым ліку сярод мусульманскіх народаў былога СССР. Так, некаторыя казахскія нацыяналісты абвінавацілі Міжнародны алімпійскі камітэт у тым, што ён лабіруе выключна еўрапейскія віды спорту, ігнаруючы азіяцкія. На іх думку, патрэбна пашырыць спіс алімпійскіх відаў спорту за кошт традыцыйных народных спаборніцтваў. Уключыць, напрыклад, спаборніцтвы вярблюдаў на хуткасць або барацьбу на паясах, папулярную ў цэнтральнай Азіі. Ініцыятыва знайшла як прыхільнікаў, так і праціўнікаў. Аўтарытэтнае казахскае выданне «Zona» нават правяло апытанне на тэму, якія віды спорту павінны быць алімпійскімі. На думку большасці ўдзельнікаў апытання, уключыць у Алімпіяду перш за ўсё патрэбна такі від спорту, як Кыз-куу, што значыць «дагані дзяўчыну». На другім месцы — барацьба на паясах (19 працэнтаў). На трэцім Асыкі (гульня барановымі косткамі).

**Паводле казахскай прэсы**

СЕНТЭНЦЫІ

# БАРАНЭСА ТЭТЧЭР І ПАНК-РОК

*Алег* **НОВІКАЎ**

**Смерць Маргарэт Тэтчэр адрадзіла даўнюю спрэчку паміж прыхільнікамі і праціўнікамі экс-прэм'ера. Ёсць толькі адзін пункт, у якім адны і другія сыходзяцца, — Жалезная Лэдзі зрабіла вялікі пазітыўны ўплыў на музычную культуру.**



На хвалі нянавісці да сацыяльна-эканамічнай палітыкі Тэтчэр у Вялікабрытаніі пачаў квітнець радыкальны рок, і асабліва панк-рок. Творчасць некаторых панк-гуртоў таго часу трапіла ў залаты музычны архіў. Антытэтчэраўскія матывы прысутнічаюць у творчасці такія вядомых гуртоў, як «Genesis», «Duran Duran», «Samantha Fox», «Pet Shop Boys», «Pink Floyd».

Пры гэтым у выразах на адрас кіраўніка музыкі не саромеліся. Дастаткова ўзгадаць песню гурта «Forlorn Hope» пад назвай «Gonna Laugh When Margaret Thatcher Dies» («Я буду смяяцца ў дзень, калі Тэтчэр памрэ»). Або хіт «Thatcher F*cked the Kids» («Тэтчэр займаецца сэксам з дзецьмі») аўтарства Фрэнка Турнера (Frank Turner). Або як вам запіс гурта «Morrissey» «Margaret On The Guillotine» («Маргарэт на гільяціну»). Нарэшце, песня гурта «Crass» «How Does It Feel to Be the Mother of 1,000 Dead» («Як гэта, быць маці тысячы забітых?»), на стварэнне якой аўтараў натхніла Фальклендская вайна і знішчэнне брытанскім флотам аргенцінскага флагмана «General Belgrano». Карабель быў патоплены ў нейтральных водах, што супярэчыла міжнароднаму праву. Загінула каля 320 чалавек.

Прычым згаданыя вышэй агрэсіўныя палітызаваныя мелодыі былі запатрабаваныя масамі. Як прызнаваўся неяк лідар гурта «Crass»: «Тэтчэр — гэта проста добрая фея. Мы, анархісты, думалі, як мы можам крытыкаваць капіталістычнае грамадства, і раптам атрымалі такога чалавека на пасаду прэм'ера, як Тэтчэр. Гэта проста фантастыка!» Аднаго слова «Тэтчэр» у 1980-я гады было дастаткова, каб імгненна гальванізаваць левы пратэстны настрой. Трэба прызнаць, што кансерватары плацілі панкам той жа манетай. Так, «Times» неяк пісаў пра тое, што «Crass» ледзь не фінансуецца Брэжневым і Андропавым.

Тэтчэр і сама нявольна стварала апазіцыйны рок. Беспрацоўная моладзь ішла ў панк-музыку. Дзякуючы масавым скарачэнням у Манчэстэры і з'яўленню арміі маладых музыкаў напрыканцы 1980-х гадоў менавіта сюды з Лондану пераехала брытанская музычная сталіца.

Праўда, цяпер гэта ўжо мінуўшчына. Больш за тое, сёння шматлікія былыя зоркі панк-сцэны 1980-х гадоў нават настальгуюць па часах Жалезнай Лэдзі. Так, музыка Ноэль Галахер (Noel Gallagher) з гурту «Oasis» кажа, што сумуе па часах Мэгі, паколькі тады ў грамадстве панаваў культ працы. Уся беспрацоўная моладзь марыла знайсці працоўнае месца. А цяпер, па яго словах, адсутнасць працы маладыя кампенсуюць фантазіямі пра перамогу на нейкім шоў на тэлебачанні.

Аднак адной настальгіяй былых панкаў па часах іх маладосці, якія выпалі на эру Тэтчэр, справа не абмежавалася. Параўноўваючы ідэйныя забабоны панк-руху з поглядамі і ўчынкамі Маргарэт, некаторыя эксперты выступаюць з сенсацыйнай заявай. Калі ім верыць, то, па-сутнасці, баранеса Тэтчэр была панкам.

Прычына таму — прычоска Маргарэт, якая, як лічаць некаторыя, ёсць не што іншае, як стылізаваная панк-канструкцыя. Калі сур'ёзна, то культуролагі сыходзяць з тэзісу пра тое, што феномен Тэтчэр як палітыка і культурны накірунак «панк» маюць адны карані: яны выйшлі з адной і той жа сацыяльная атмасферы другой паловы 1970-х гадоў. У гэты час жыхароў Альбіёну ахапіла татальная фрустарцыя. Эйфарыя, характэрная для часоў «Beatles», знікла падчас зацяжной эканамічнай рэцэсіі і крызісу посткаланіяльнай свядомасці.

Адзін з сучаснікаў так апісвае паўсядзённую сітуацыю тых гадоў. «Нічога не працавала. Цягнікі заўсёды спазняліся. Тэлефоны ў кабінках былі заўсёды разбітыя. А самі кабінкі выкарыстоўваліся як прыбіральні. У навінах дамінавала тэма страйкаў. Забастоўка шахцёраў. Забастоўка докераў. Нават забастоўка магільшчыкаў. Прафсаюзы адпраўлялі кабінеты ў адстаўку. Усіх дастала інфляцыя. За верасень 1979-га яна склала 17 працэнтаў».

Пасляваенны сацыяльна-палітычны кансенсус, які будаваўся на дыктаце чыноўнікаў і прафсаюзнай бюракратыі, не падабаўся як маладым анархістам, так і частцы кансерватараў, якія марылі імпартаваць амерыканскую мадэль рынкавага індывідуалізму. Першыя ішлі ў панк, другія — у радыкальную фракцыю кансерватараў пад кіраўніцтвам Тэтчэр. Нягледзячы на полюснасць, гэтыя з'явы ў выніку маюць шмат агульнага.

Іспанская газета «El Pais» піша: «У папулярнай культуры Тэтчэр знайшла абсалютна незвычайных саюзнікаў у асобе панк гурта «Sex Pistols». Гэты гурт фармаваў думку цэлай генерацыі, якая стамілася ад палітычнай эліты, што была не здольная зразумець новы свет. І «Sex Pistols», і Тэтчэр першымі сказалі: «Стары парадак мёртвы».

Найбольшае, што набліжае Жалезную Лэдзі да панкаў — гэта, безумоўна, агрэсіўнасць. Як той панк, Маргарэт жыла ад канфрантацыі да канфрантацыі. «Вы ніколі нічога не дасягніце без праблем», — казала яна ў 1984 годзе падчас аднаго тэлевізійнага інтэрв'ю. Акрамя таго, Тэтчэр была даволі цынічнай. «Ёсць больш важныя рэчы, чым грамадства», — казала яна. «Божа, ратуй каралеву, фашысцкі рэжым», — спявалі панкі. Можна паспрачацца, якое з двух выказванняў больш шакавала брытанцаў.

Наступная «панкаўская» рыса Тэтчэр — індывідуалізм. На партыйнай канферэнцыі торы ў 1980 годзе, калі яе курс выклікаў пярэчанні з боку левых, яна казала: «У нас няма альтэрнатывы. Усе чакаюць, што мы павернем назад. Калі хочаце, можаце паварочваць. Аднак лэдзі ніколі не вяртаюцца». На думку гісторыкаў, яна, як той лідар панкаўскай банды, аб'яднала вакол сябе своеасаблівую субкультуру прыхільнікаў радыкальных рынкавых рэформаў. «Мы не дапусцім пахавання Брытаніі. І вы, дарэчы, таксама», — казала яна выбаршчыкам падчас парламенцкай кампаніі 1979 года.

Увогуле, сама тэорыя тэтчэраўскага разумення лібералізму вельмі пасавала панкаўскай філасофіі анархізму. Маргарэт Тэтчэр сцвярджала: «Чалавек павінен працаваць, калі сам гэтага захоча. Расходаваць грошай столькі, колькі зарабіў, і глядзець на дзяржаву як на службовы персанал, а не як на гаспадара».

Панк быў моцна звязаны з анархізмам, а адсюль — і з левым рухам. Аднак тое, што панкі і торы выказвалі zeitgeist (дух часу), відавочна. У гэтым плане самы цікавы тэзіс прапануе інтэрнэт-выданне «HuffPost». Паколькі панкаўскі рух пачаўся раней за прыход Мэгі на Даўнінг-стрыт, 10, часопіс ставіць пытанне: а што, калі менавіта папулярныя ў той час сярод моладзі панкаўскія каштоўнасці якраз і інспіравалі ў соцыуме запыт на такога брутальнага і рашучага палітыка, як Маргарэт Тэтчэр? «Жалезная Лэдзі проста сабрала ўраджай лютасці, якія пасеялі панкі», — рэзюмуе «HuffPost».

ВЫБАРЫ

# ВЕНЕСУЭЛА: КАЛІ ПЕРАМОЖЦА ПРАЙГРАЎ

Алег НОВІКАЎ

**Сапраўдным шокам для ўсіх аказаліся вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Венесуэле: яўны фаварыт Нікалас Мадура ледзь не прайграў. Сусветная прэса шукае адказ на пытанне, што ж здарылася.**




Усяго за два тыдні кампаніі апазіцыйны кандыдат Энрыке Капрылес здолеў дагнаць прадстаўніка чавістаў Нікаласа Мадура, які на старце выбарчай гонкі меў на 20 пунктаў больш. У выніку, паводле афіцыйных дадзеных, разрыў паміж кандыдатамі складае каля 1,5 працэнтаў, або 200 тысяч з гакам галасоў. Як Мадура, якога лічылі амаль рэінкарнацыяй Чавеса, мог прафукаць такі рэсурс?

У якасці адказу на старонках СМІ прапануюцца шмат версій. Перш за ўсё, безумоўна, пішуць пра тое, што як асоба Мадура аказаўся не такі цікавы. «Пераемнік Чавеса Нікалас Мадура, здаецца, не мае ні інтэлектуальных, ні палітычных талентаў прымаць рашэнні, якія задавальняюць інтарэсы ўсёй наменклатуры. У першыя дні пасля выбараў яго стыль кіравання — спалучэнне пагроз расправіцца і абяцанняў пералічыць галасы — зрабіў яго імідж яшчэ больш туманным», — адзначае нямецкае выданне «Der Welt».

Шматлікія СМІ адзначаюць, што Капрылес як лідар аказаўся прывабней за Мадура. «Нарэшце ў нас ёсць лідар», — казалі шматлікія прыхільнікі апазіцыі ў час апошняй кампаніі.

На думку газеты «Vanguardia», улада адштурхнула ад сябе гэтых людзей, пабудаваўшы кампанію не на аргументах, а на кульце Чавеса: «Аказалася пралікам думаць, што стварэнне рэлігійнага культу вакол Уга Чавес будзе дастаткова, каб утрымаць электаральную большасць. Улічваючы сур'ёзныя праблемы краіны і эканомікі, няўпэўненасць, палітычную палярызацыю і вельмі неэфектыўнае дзяржаўнае кіраванне, венесуэльцы былі прыхільнікамі не чароўных, а зямных рашэнняў».

Левыя выданні лічаць, што Капрылес абавязаны свайму прарыву тым, што пачаў атакаваць Мадура з левых пазіцый. Амерыканскае выданне «Nation» адзначае: «Капрылес пастаянна параўноўваў сябе з бразільскім левым прэзідэнтам Лулай да Сільва, заяўляючы, што ён захавае ўсе сацыяльныя праекты Чавеса — сістэму аховы здароўя, адукацыю, забеспячэнне жыллём, дзіцячыя сады, размеркаванне на дапамогу гарадской і сельскай беднаты. Пры гэтым Капрылес, які ў 2002 годзе падтрымаў арганізаваны ЗША пераварот, цяпер называе сябе прыхільнікам баліварыянскай рэвалюцыі. Яшчэ некалькі гадоў пра падобнае нельга было нават і падумаць — гэта ўсё роўна, што Дзік Чэйні (адна з ключавых фігур адміністрацыі прэзідэнта Буша-малодшага) абвясціў бы сябе сябрам левай антываеннай феміністычнай арганізацыі».

> Шматлікія СМІ адзначаюць, што Капрылес як лідар аказаўся прывабней за Мадура. «Нарэшце ў нас ёсць лідар», — казалі шматлікія прыхільнікі апазіцыі ў час апошняй кампаніі

Яшчэ адзін цікавы тэзіс тычыцца ролі, якую адыгралі ў кампаніі Капрылеса патрыятычныя лозунгі. Венесуэльская апазіцыя і раней спрабавала стрыгчы купоны на тэме ўплыву Гаваны на рашэнні, якія прымаў Чавес. Аднак цяпер дэвіз «No somos Cuba, somos Venezuela» (Мы не Куба, мы Венесуэла), мяркуючы па рэпартажах з вуліц Каракаса, сапраўды знайшоў масавую падтрымку.

Відавочна, гэта звязана з тым, што 25 гадоў таму Нікалас Мадура атрымаў запрашэнне прайсці ў Гаване навучанне ў Інстытуце падрыхтоўкі кадраў. Нават французская «Le Monde», якую нельга назваць правай, не выключае, што Мадура з'яўляўся агентам кубінскай дыпламатыі і завязаў кантакты з Уга Чавесам у рамках нейкага задання.

Хаця, з іншага боку, такім жа чынам працавала ў Венесуэле і ЦРУ, якое было звязанае са спробай вайсковага перавароту супраць легітымнага ўраду ў 2002 годзе. Дарэчы, нямецкая «Tageszeitung» піша, што Мадура, наадварот, атрымаў перавагу, паколькі адкрыта заявіў, што ён сацыяліст. З улікам яго слабай харызмы, гэта было адзіным, што дазволіла яму кансалідаваць сацыяльную базу чавістаў.

Аднак вернемся да прычын канфузу Мадура. Іспанская газета «El Mundo» слабым месцам выбарчай кампаніі Мадура лічыць зварот выключна да бедных. Між тым, дзякуючы перш за ўсё рэформам Чавеса, у краіне большасць людзей належаць да сярэдняга класу, які ўжо не жадае галасаваць за «кандыдата бедных», як называў сябе ў агітацыйных роліках Нікалас Мадура.

Што далей? Тая ж «El Pais» падводзіць прамежкавы вынік: «Пакуль што мы маем маральную, а не рэальную перамогу апазіцыі. Аднак гэта маральная перамога часова замарозіла чавісцкі праект для краіны, у аснове якога інстытуцыялізацыя гарадскога люмпену ў якасці галоўнага суб'екту рэвалюцыі».

Між іншым, у першы дзень пасля выбараў гэтае ж выданне прагназавала, што вулічныя маніфестацыі апазіцыі могуць прывесці да вайсковага путчу. Пакуль сцэнар развіцця падзей застаецца незразумелым. 17 красавіка Капрылес заявіў, што мае дадзеныя пра тое, што прыкладна на тысячы выбарчых участкаў мелі месца дадатковыя ўкідванні фальсіфікаваных бюлетэняў. Быццам, гэта дало Мадура больш за паўмільёна ліпавых галасоў. У адказ чавісіты патрабавалі ў пракуратуры распачаць крымінальную справу супраць Капрылеса за правакацыйныя заклікі і непраўдзівую інфармацыю.

Яшчэ адзін магчымы фактар дэстабілізацыі ў Венесуэле — анархія ў шэрагах чавістаў. Журналісты звяртаюць увагу на пост, які пакінуў 16 красавіка ў Twitter другі ў цяперашняй чавісцкай камандзе чалавек — Дзіясдада Кабэльё. Ён раскрытыкаваў Мадура за адсутнасць самакрытыкі. Нехта зразумеў той пост як адкрыты старт унутрыпартыйнай барацьбы.

Спецыяльна для НЧ сітуацыю ў Венесуэле каментуе **Аляксандр Снітко**, беларускі актывіст Руху салідарнасці 1980-х гадоў, які дагэтуль падтрымлівае кантакты з сябрамі ў Лацінскай Амерыцы.

— Сыходзячы з перапіскі з маімі сябрамі (галоўным чынам гэта людзі левых поглядаў), магу ўказаць як мінімум на дзве прычыны нечаканага ўздыму папулярнасці Капрылеса. Па-першае, гэта абяцанне ў выпадку перамогі за кошт дзяржавы аплаціць крэдыты тым, хто ў часы Чавеса браў іх на будаўніцтва жылля. Цяпер працэнты па тых крэдытах плацяць каля двух мільёнаў венесуэльцаў. Гэта важная грамадская праблема, якую ўпусцілі ў штабе Мадура. Па-другое, Капрылес абяцаў рэзка ўзняць мінімальны заробак, што таксама спадабалася шматлікім выбаршчыкам.

Тым не менш, баліварыянскі лагер выстаяў. Хаця ўсе мае сябры прызнаюць, што для яго пачынаюцца цяжкія часы. Галоўныя выклікі на адрас Мадура — карупцыя, праблема бюракратызацыі і злачыннасць. Калі ён нешта тут зробіць, то шансы ў баліварыянскага праекту яшчэ будуць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### РАФІС КАШАПАЎ



Кандыдатура лідара Усетатарскага грамадскага цэнтра з горада Набярэжныя Чаўны была прапанавана татарскімі дыяспарамі шэрагу краін былога СССР на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру. На думку аўтараў ініцыятывы, Кашапаў з'яўляецца «сімвалам дэмакратыі ў Татарстане», абаронцам малых мусульманскіх народаў Расіі, правоў журналістаў і г.д. Між тым, апаненты Кашапава з гэтым не згодныя. Нагадаем, што Рафіс Кашапаў з'яўляецца прызнаным лідарам сепаратыстаў Татарстана яшчэ з 1990-х гадоў. У 2009 годзе Кашапаў атрымаў умоўны тэрмін за маніфест «Стоп хрысціянізацыі!», які з'явіўся ў інтэрнэце за яго подпісам пасля скандалу ў адной з татарскіх радзільняў, дзе праваслаўны святар, быццам, прымусова хрысціў нованароджаных дзяцей. Лідара Усетатарскага грамадскага цэнтра тады прызналі вінаватым у распальванні міжрэлігійнай варожасці і асудзілі на паўтара гады ўмоўнага пазбаўлення волі. Сам Рафіс ідэю свайго вылучэння на Нобеля падтрымаў. Паводле яго слоў, «незалежнасць Татарстану — гэта, па-сутнасці, і ёсць ідэя міру».

### ПЕЕР ШТАЙНБРУК



Кандыдатам Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі на пасаду канцлера ФРГ Пеер быў абраны роўна год таму, што дало нямецкай прэсе падставу прааналізаваць яго шансы на перамогу. Як правіла, усе лічаць, што за год яны сталі яшчэ больш нізкія. Галоўны фактар — неадпаведнасць Штайнбрука іміджу лідара левай партыі. Кандыдат вядзе жыццё багатага фінансавага эксперта, што перыядычна вылазіць у розных эпізодах. Апошні канфуз адбыўся падчас прэзентацыі выбарчага лагатыпа кампаніі Штайнбрука «Мы вырашаем гэта». Аказалася, што падобны лозунг выкарыстоўвае адна французская кампанія, якая займаецца тым, што пераводзіць фірмы на больш гнуткі рэжым працы. Сам Штайнбрук яшчэ ўчора мала звяртаў увагу на падобныя праколы, паколькі, паводле вынікаў апытанняў, сацыял-дэмакраты і іх саюзнікі «Зялёныя» ў будучым Бундэстагу павінны былі набраць больш галасоў, чым партыя Меркель і яе партнёры-лібералы. Аднак цяпер расклад мяняецца. На мінулым тыдні, упершыню за некалькі гадоў, большасць патэнцыйных выбаршчыкаў выказалася за тое, каб кааліцыя кансерватараў і лібералаў засталася пры ўладзе. Гэта выклікала лёгкую паніку на левым флангу, дзе ўсе ўжо рыхтаваліся ўвосень пераехаць у міністэрскія апартаменты.

### СТАНІСЛАЎ ГУРЭНКА



Апошні сакратар ЦК Кампартыі савецкай Украіны памёр 14 красавіка ва ўзросце 77 гадоў. Гэта стала сімвалічным знакам заканчэння камуністычнай эпохі ва Украіне. Гісторыкі, якія спрабуюць зразумець ролю нябожчыка ў гісторыі, адкрылі сенсацыйны факт. Магчыма, дзякуючы Гурэнку, які кіраваў Кампартыяй з чэрвеня 1990 года, Украіна стала незалежнай. Менавіта пасля яго выступу на пасяджэнні фракцыі камуністаў у Вярхоўнай Радзе ў час путчу, усе яе сябры, акрамя аднаго чалавека, вырашылі прагаласаваць за абвяшчэнне незалежнасці Украіны. Цікава, што гэта рашэнне стала лёсавым для камуністаў — іх партыю забаранілі ўжо 1 верасня 1991 года. Праўда, сам Гурэнка лічыў, што, падтрымаўшы незалежнасць, камуністы паступілі правільна, паколькі не дапусцілі выбуху антыкамуністычнага тэрору ў грамадстве. Хаця ў 1993 годзе Кампартыю аднавілі, былы першы сакратар не стаў яе франтмэнам. Ён кінуў усе свае сілы на тое, каб забарону партыі ў 1991 годзе прызналі неканстытуцыйным актам, і дабіўся свайго ў 2001-м, калі Канстытуцыйны суд прыняў адпаведную пастанову. Хаця Гурэнка заўсёды быў працаўнікам улады як Януковіча, так і аранжавых, яго пахаваюць на Байкавых могілках, дзе хаваюць прадстаўнікоў украінскай палітычнай эліты.

ЦІКАВА

# ФУТБОЛ НА «КРЭСАХ»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Кіраўніцтва Другой Рэчы Паспалітай рабіла вялікую стаўку на развіццё спорту ў краіне. Асабліва вялікую ўвагу надавалі футболу. У міжваенны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічаў цэлы шэраг прафесійных футбольных каманд, а некаторыя клубы з «крэсаў» нарабілі шуму ў польскім чэмпіянаце.**



Каманда «Якар», Пінск



«Якар» (Пінск) ў гульні з «Чорнымі ільвамі» (Львоў)

## Пачатак «пілкі ножнай»

У верасні 1918 года быў створаны агульнапольскі саюз, які павінен быў заняцца развіццём спорту ў адроджанай Польшчы. Калі ў 1921 годзе ў Другой Рэчы Паспалітай было каля 70 тысяч спартоўцаў, то праз тры гады іх было ўжо 115 тысяч. У 1927 годзе пытанні развіцця спорту ў краіне былі перададзены ў вядзенне Дзяржаўнага бюро фізічнага выхавання і вайсковай падрыхтоўкі. Калі казаць пра развіццё футбола, то ў снежні 1919 года ў Варшаве адбыўся з'езд польскіх футбольных клубаў, у якім удзельнічалі прадстаўнікі 31 каманды.

Па выніках пасяджэння быў створаны Польскі футбольны саюз (PZPN) са штаб-кватэрай у Кракаве (знаходзілася там да 1928 года — *аўт.*). Адпаведна, першым старшынёй арганізацыі быў абраны кіраўнік клуба «Краковія» Эдвард Цэтнароўскі. Тэрыторыя краіны была падзелена на 5 футбольных акруг: кракаўскую, львоўскую, лодзьскую, познаньскую, варшаўскую. Першы чэмпіянат павінен быў прайсці ў 1920 годзе, але вайна з бальшавікамі перакрэсліла планы тагачасных польскіх футбольных функцыянераў.

Пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў складзе Другой Рэчы Паспалітай аказаліся новыя тэрыторыі на ўсходзе і на захадзе. Гэты факт паўплываў і на фармаванне структуры футбольных акруг. Да ўжо пералічаных вышэй дадаліся: горнасілезская, люблінская, торуньская і віленская. У 1929 годзе да іх дадаліся палеская і беластоцкая. У апошніх трох акругах і канцэнтравалася футбольнае жыццё Заходняй Беларусі.

## Гульня №1 у Заходняй Беларусі

На першым кангрэсе FIFA ў красавіку 1923 года Польскі футбольны саюз быў прыняты ў яго структуру. У 1927 годзе была створана так званая «польская ліга» (экстраліга). У яе ўвайшлі 14 клубаў. Трапіць у эліту можна было праз рэгіянальныя спаборніцтвы, якія праводзіліся ў рэгіянальных футбольных акругах. Па сутнасці, клас А, у якім якраз і разыгрывалася званне чэмпіёна, быў другой лігай польскага чэмпіянату. Пераможца гульняў у акрузе восенню пачынаў змагацца за выхад у вышэйшую лігу. На першым этапе ў групе збіраліся суседзі, таму з года ў год пераможцы палескай, беластоцкай і віленскай акруг разыгрывалі паміж сабой адзіны білет у экстралігу.

На тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай найбольшага поспеху дасягнуў шэраг футбольных клубаў. У 1929 годзе гродзенская «Крэсовія» выйграла чэмпіянат Беластоцкай акругі, абыграўшы свайго галоўнага канкурэнта — клуб «WKS 42 PP» (спартыўны клуб арміі, што прадстаўляў 42-і пяхотны полк з Беластока — аўт.). У складзе гродзенскага клуба гуляў такі вядомы польскі ігрок, як Марыян Схалер. Дарэчы, пазней ён перайшоў у варшаўскую «Легію» і пяць разоў запрашаўся ў нацыянальную зборную Польшчы.

Іншым знакамітым гродзенскім клубам быў «WKS 76 PP» (СКА 76-га пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута). У 1930-х гадах гэты клуб проста дамінаваў у Беластоцкай футбольнай акрузе. На працягу 1930-х гадоў «WKS 76 PP» толькі аднойчы, у 1935 годзе, прапусціў іншую каманду да чэмпіёнства. Справа ў тым, што службу ў палку праходзіла шмат таленавітых гульцоў з добрым досведам. Напрыклад, нападаючы Ежы Хасельбуш, што выступаў у свой час за «Варшавянку», ці абаронца Адам Халішка, які 3 разы (у 1934–1935 гадах) выступаў за нацыянальную зборную Польшчы.

Аднак было і шмат сваіх, досыць добрых футбалістаў. Сярод іх варта вылучыць нападаючага Яўгена Адамчыка, які ў сезоне 1938 года забіў 30 (!) галоў. Яго брат Тадэвуш разам з Кастусём Мельнікавым складалі добрую звязку паўабаронцаў. Надзейна гуляў брамнік Зенка, абаронцы — Юргелевіч, Пабурэнны ды іншыя.




WKS (Гродна) перад сустрэчай літоўскім клубам з Каўнаса

У 1931 годзе «WKS 76 PP», набраўшы 25 балаў, упершыню заняў першае месца ў чэмпіянаце Беластоцкай акругі. А ў наступным годзе абыграў свайго галоўнага канкурэнта, «Ягелонію» з Беластоку з лікам 6 : 2. У сезоне 1938 года гродзенцы выйгралі 11 матчаў з 12 і яшчэ адзін матч скончыўся нічыёй. У наступным годзе, падчас апошняга перадваеннага чэмпіянату, разгромілі клуб «Макабі Ломжа» з лікам 13 : 1. Дарэчы, у 1939 годзе гродзенскі клуб згуляў таварыскі матч з літоўскім прафесійным клубам «LSGF Kaunas» і абыграў літоўцаў з лікам 4 : 2.

Гульні ў Гродна адбываліся на стадыёне Акруговага таварыства фізічнага выхавання, які знаходзіўся на вуліцы Сабескага, 3. Квіткі на гульню каштавалі досыць дорага — 1 злоты, але вольных месцаў на стадыёне амаль не было.

Яшчэ адным вайсковым клубам з Заходняй Беларусі быў «WKS 82 PP» (СКА 82-га пяхотнага палка) з Брэста. У 1930 годзе, падчас барацьбы за месца ў 1-й лізе, брэсцкі клуб абыграў вельмі моцны віленскі «Агніска» і беластоцкі клуб 42-га пяхотнага палка. Аднак у выніку Брэст прайграў аднаклубнікам з Седлец і аддаў ім адзіную пуцёўку ў вышэйшую лігу. Удала гуляў і брэсцкі клуб танкістаў 4-га танкавага дывізіёна. Дарэчы, у горадзе на Бугу былі і іншыя клубы («Рух Брэст», «Пагоня Брэст»), якія даволі паспяхова змагаліся ў чэмпіянаце Палесся.

Былі свае клубы і ў яўрэйскага насельніцтва заходнебеларускіх ваяводстваў Польшчы. Так, у Гродна гулялі каманды «Макабі» і «Крафт». Дарэчы, менавіта ігрок-яўрэй Юзеф Клоц забіў у 1922 годзе першы гол у гісторыі польскай зборнай па футболу. Той матч супраць Швецыі палякі выйгралі 2 : 1. У студзені 1938 года пад ціскам з боку кіраўніцтва Трэцяга Рэйха Польскі футбольны саюз выключыў са свайго складу ўсе яўрэйскія клубы. Пасля гэтага частка футбалістаў-яўрэяў, у тым ліку і з Заходняй Беларусі, эміґравала ў Палесціну.

У Пінску гуляў клуб «Якар». Па назве зразумела, што гэта быў марскі клуб і складаўся з вайсковых маракоў, якія служылі ў Пінскай флатыліі. Гэты клуб двойчы станавіўся чэмпіёнам Палесся, а яго галоўнай зоркай быў Караль Косак, які меў досвед гульні ў польскай зборнай. У 1933 годзе ў Вільне быў створаны аб'яднаны вайсковы клуб «Сміглы» (WKS Śmigły Wilno). Хутка гэта каманда стала дамінаваць у спаборніцтвах у Заходняй Беларусі і нават прайшла ў экстралігу. Найбольш удалым яе іграком быў Юліўш Балосек, які нарадзіўся пад Гродна.

***

1 верасня 1939 года пачалася Другая Сусветная вайна, а праз 17 дзён савецкія войскі ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь і далучылі гэтую тэрыторыю да СССР. Шматлікія польскія футбалісты з першых дзён удзельнічалі ў вайсковых дзеяннях. Некаторыя з іх загінулі ў баях. Іншыя апынуліся ў нямецкім і савецкім палоне. Шэраг польскіх паліцэйскіх з Познані, якія ў міжваенны час гулялі ў прафесійных і паўпрафесійных футбольных камандах, апынуліся ў руках НКУС і пазней утрымліваліся ў турмах Мінску. Іх прозвішчы могуць знаходзіцца ў Беларускім катынскім спісе. Што ж тычыцца футбольных клубаў з Заходняй Беларусі, то пра іх добрую падрыхтоўку сведчыць той факт, што падчас першага пасляваеннага чэмпіянату БССР па футболе каманды з Брэста і Гродна занялі, адпаведна, 2-е і 3-е месца.

НОВАЕ КІНО

# «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» — ЗМАГАННЕ ЗНАКАЎ І ТРАЎМЫ ЦЕЛАЎ

Андрэй РАСІНСКІ

**19 красавіка ў польскі пракат выходзіць карціна «Жыве Беларусь!», складзеная паводле вайсковай гісторыі Франка Вячоркі. Новы фільм можа выклікаць розгалас ва Усходняй Еўропе, здольны скандалізаваць беларускую аўдыторыю і стаць галаўным болем для ідэолагаў.**

## Пафас знакаў

Рок-музыка Мірон Захарка, які спявае падрыўныя песні, вырваны з мірнага жыцця і кінуты ў беларускую армію. Там ён не спыняе грамадскай дзейнасці, з дапамогай сваёй дзяўчыны ўпотайкі вядзе выкрывальны блог ды балатуецца ў мясцовы савет. Але аўтарытарная сістэма не любіць пакідаць чыюсьці самадзейнасць беспакаранай.

Першыя сцэны карціны адразу перагукаюцца з фільмам «Вышэй за неба» Курэйчыка і Марыніна. Музыка Вінсэнт — Зміцер Папко — і там, і там грае ў гурце. Толькі ў карціне «Жыве Беларусь!» ён на галоўнай ролі. Абедзве стужкі пачынаюцца з рок-канцэрту; вечаровыя вуліцы Мінску мусяць падкрэсліць сучаснасць і дакладную прывязку да месца. Падобныя і рэкламныя плакаты стужак. Але калі «Вышэй за неба» — гэта прыватная гісторыя, праз якую мы глядзім на грамадства, то фільм Кшыштафа Лукашэвіча — гэта свінцовы (і незаслужаны) пафас знакаў, што загрувашчвае асабістае.

На экране — шызыя і чорныя колеры, цені, скульптуры Леніна і Дзяржынскага. Суровыя ваенныя сядзяць пад партрэтам Лукашэнкі, чыя фуражка — проста гратэскных памераў. (Самае неверагоднае, што гэта сапраўдны афіцыйны партрэт, які хітры Франак набыў у вайсковае краме, выдаўшы сябе за стваральніка карціны пра «беларуска-расійскую інтэграцыю». Пасля здымак мілітарны рэквізіт са свістам разышоўся па польскіх антыкварнях). Нягледзячы на такі поспех, высокага ўбору ў кадры ажно занадта: у мастацтве нярэдка здараецца, калі ўпiлшчаныя ў твор сапраўдныя рэчы выглядаюць ненатуральнымі.

У фільме мы бачым стылёвую манументальную мілітарнасць, змрочную і непахісную, як у геаметрыі пляцаў, так і ў паводзінах воінскіх шпунтоў. Вось — маршкідок у адгазніках. А вось генерал — у выкананні Анатоля Ката — сапраўдны мармуровы помнік генеральскім пагонам, які плануе падступныя аперацыі.

Беларускі акцёр, які ў апошні час сыграў процьму шынельных роляў, почасту мёртвых ды пустых, — сабраў разам усё: цвёрдасць і ўрачыстасць жэсту, жалезную волю, розум і постаць. Кардонавыя персанажы серыялаў і «Дняпроўскіх рубяжоў» згусціліся ў адну жывую фігуру — караля на шахматнай дошцы.

На гэтай дошцы час выкачаны і пануе задуха. Але не толькі і не столькі таму, што краіна застыла і замаркоцілася. Сцэнар фільму, складзены Лукашэвічам з пэўнай падачы Франака, — гэта няўзвідная тактыка бою, ход масава-палітычных аперацый, дзе праўда прыватных чалавечых пачуццяў — справа дзясятая.

Мілітарная геаметрыя стужкі з дысцыплінай і крыкамі нагадвае «Цэльнаметалічны жылет» Стэнлі Кубрыка. Але ў Кубрыка мелася развіццё характараў, што спускаліся да біялагічных інстынктаў і жарсцяў дый выбухалі нечаканай агрэсіяй. Стужка Кшыштафа Лукашэвіча — гэта замкнёная і плоская прастора знакаў, татальна-сацыяльная і прадказальная, якая патрабуе жорсткай дрэсуры целаў.

## Дрэсіроўка целаў

У дэкарацыях вайсковае часткі (на радыяцыйнай зямлі) дрэсіруюць навабранцаў. Дзяды ездзяць на іх, б'юць, кідаюць чысціць прыбіральні; аднаго хлопца прымушаюць есці «няправільныя» газеты — «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

На пляцу гэны юнак адмаўляецца прамаўляць па-руску — і заяўляе, што прыме прысягу, калі зменіцца прэзідэнт. Разбіты твар і патаптанае цела — адказ, адпрацаваны ў цішы казармаў. Заходзіцца крыкам афіцэр, абураны беларускаю мовай (Аляксандр Малчанаў). Ён мог бы ламантаваць не так гучна, але празмернасць — аздоба ідэалагічнага знаку. Малчанаў — акцёр стрымана-далікатных інтанацый і жэстаў — значна выйгрышней глядзіцца, калі ягоны герой тоіцца ў кутку з ціхмяным падкаладнасцю, але такой стрыманасці ў фільме няшмат.

Увогуле, стужка пабудаваная на экзальтаваных тыпажах, што было адметнасцю нямога кіно.

Тыпаж дазваляе адразу зразумець, да якой сацыяльна-палітычнай групы належыць герой: змагар рок-музыка, насцярожаны гэбіст, БТшнікі, зацкаваны беларускі інтэлігент, вядоўца свабоднага радыё. Тыпажы-знакі стужкі маюць два станы: «уключана» і «выключана». А грымасы цела мусяць надаць ім рэальнасць.

З генерала ліецца пот, Мірону абстрыгаюць валасы, дзяўчыну распранаюць. Амплітуда цялесных метамарфозаў штораз расце: натхненне на рок-канцэрце — кроў на рассечаных губах — твар, які шчасна ззяе на перадвыбарчай улётцы, — скрыўленасць ад болю — экстаз змагання.

Я баяўся, што стужка «Жыве Беларусь!» станецца прапагандысцкім двайніком беларускага трэш-афіцыёзу, кшталту «Вам заданне» і «Шчыт Айчыны», і рэзка выказваўся на гэты конт.

І, сапраўды, пэўнае «мундзірна-фетышысцкае» падабенства тут маецца. А сцэна, калі гераіня Караліны Грушкі ўвязненая (і ўпершыню аголеная для польскай і сусветнай публікі), нагадвае эксплуатацыйны жанр «Women-in-prison». Але традыцыі гэтай стужкі зусім не эксплуатацыйна-камерцыйныя, а грамадзянска-эпічныя.

Суровая эпічнасць — у адрозненні ад недарэчных неасталінісцкіх карцінаў, што выйшлі ў Беларусі, — тут цэласная і афармленая. Рэжым мае ў фільме твар, які ён марыў бы мець не толькі ў кіно, але і ў жыцці. Неасталінісцкі маналіт толькі выкрыўляецца, калі знакі без дазволу наслойваюцца адзін на адзін — і ёсцека позірк звонку.

Вось мы бачым ролік пра галоўную гераіню стужкі — дакладная імітацыя тэлевізійнай прапаганды выкліча ў нашых гледачоў смех. А вось падглядванне за выбарамі, знятае пад дакумент. Клеркі дробна мітусяцца, чыноўнік дае збянтэжаны загад фальшаваць. Але гэтае пацешнае ажыўленне — на ўскрайку карціны.

Татальна-кантраляваная сацыяльнасць — як у кніжках Фуко — дыктуе правілы фільму.

## «Сям'я» і дзеці

У карціне, дзе важную ролю грае каханне, асабістае не проста заціснутае мілітарнымі знакамі, яно — адсутнічае. Дакладней, так: асабістае ёсць палітычнае (адпаведна лявацка-гендэрным тэорыям). Прыватнае — толькі рыска сацыяльнага дызайну.

Герой, які сышоў у самаволку, мілуецца са сваёй дзяўчынай — у кадры гмырыцца антэна вайсковай часткі. Сябры абмяркоўваюць свае планы — абавязкова дзесьці ўпiлшчыцца чырвоная зорка. Нават калі вы ў прыватнай кватэры — сюды ўваліцца гэбіст. (І кадр-эмблема, што касуе ўсялякую прыватнасць: налепку з тварам героя зрываюць з вусатага партрэта.)



Нездарма ў фільм добра ўпісаўся Дзяніс Тарасенка — акцёр «Свабоднага тэатру»; а эстэтыка «Свабоднага тэатру» — гэта сацыяльная актуальнасць і цялесныя экзальтацыі ў палітычнай прасторы.

Дзе ў гэтай прасторы сям'я Мірона Захаркі? Мы нічога пра яе не ведаем. Сваякі любімай дзяўчыны ўзгадваюцца, каб мы адразу пра іх забыліся. Астатнія героі пра сем'і не заікаюцца. У фільме, увогуле, людскіх сем'яў няма.

Але ёсць адна сям'я — маналітная, непахісная і суцэльная. Гэбоўцы, ваенныя і чыноўнікі — нянькі гэтай вялікай сям'і; бунтоўныя героі — блудныя дзеці. Ім няма куды ўцякаць, няма дзе хавацца, няма як сцвердзіць сваю аўтаномію. Сіраты абураюцца — і здаюцца, паўстаюць — і атрымліваюць па рэбрах, б'юцца ў надзеі — і заціхаюць.

Чальцы вялікай сям'і дзейнічаюць інакш: яны наступаюць. Калі яны атрымліваюць адпор, то крыху здзіўляюцца і нават перапытваюць, але толькі таму, што так лацвей занесці выхаваўчую дубіну для новага ўдару, дый прыняць ва ўлонне агаломшаных уцекачоў. Зрэдку ад маналіту адшчапляюцца перабежчыкі да дзяцей (менавіта такі герой Дзяніса Тарасенкі), але такія асацыяльныя тыпы надвор'я не робяць.

Фільм з галоўным героем ды ягонай дзяўчынай — насамрэч, безасабовы. Як і «Браняносец «Пацёмкін», добра вядомы польскім кінематаграфістам, якія колькі разоў кпілі з яго, твор Кшыштафа Лукашэвіча — гэта фільм пра масы. Масы ўзбуджаюцца, караюцца, збіраюць сілы — атакуюць наноў. Маса ідзе на масу.

## Расправа з Польскай Народнай Рэспублікай

Беларусь у фільме — гэта Польская Народная Рэспубліка. У гэтай ПНР размаўляюць па-руску і беларуску, з рэдкім польскім акцэнтам, гучаць спевы Лявона Вольскага — і гмырацца чыгунныя Леніны. Беларусь Кшыштафа Лукашэвіча — гэта ПНР, якая магла быць, калі б захаваўся СССР. Стужка — увасобленыя страхі палякаў перад такім незайздросным лёсам.

Карціна грунтуецца на польскай антытаталітарнай кінатрадыцыі, даволі багатай. І даводзіць яе вобразы да жалезабетоннага гратэску. І падобна таму, як праз 20 гадоў пасля перамогі над фашызмам з'явіліся антыфашысцкія стужкі, так і цяпер — праз 20 гадоў пасля краху камунізму ва Усходняй Еўропе — спатрэбілася аднавіць памяць пра таталітарныя «радасці». Вырасла пакаленне, якое пра мінулае не ведае.

Як паведаміў Франак Вячорка, «Жыве Беларусь» уключана ў праглядзы для польскіх школьнікаў (нягледзячы на мат, жорсткасць і аголенае цела). Пэўныя насцярогі наконт стужкі выказалі польскія ваенныя, але іх зразумець можна: сцэны дзедаўшчыны, няхай сабе ў беларускай арміі, могуць не столькі абвастрыць стасункі з усходнім суседам, колькі ўзмацніць пацыфісцкія настроі прызыўнікоў.

Як бы там ні было, стужка «Жыве Беларусь» — палымяная экранізацыя падручніка грамадазнаўства. Тэма для засваення: савецкая дамінацыя, русіфікацыя, таталітарызм.

## Дубінка для прыгожай дзяўчыны

Мы лічым рэальнасцю тое, што супадае з нашым уяўленнем пра яе. Для польскіх гледачоў, не абазнаных у беларускім побыце, — карціна Лукашэвіча станецца рэальнасцю, бо ўяўленні пра нашу краіну не проста супадуць, але і накладуцца на памяць пра нялюбую ПНР. Беларусы, уцягнутыя ў барацьбу, успрымуць стужку са скепсісам: людзям цяжка ўпiлшчыцца на плакат. Затое для тутэйшага «балота» карціна будзе моцным ударам па галаве. Тое, ад чаго адварочваліся, вытыркаецца міліцэйскай дубінай, што разбівае твар пекнай дзяўчыны.

Яшчэ большы боль — ідэолагам. Замаўчаць карціну — значыць, патураць ёй. Хваліць фільм — хаця б за манументальную стылёвасць, якую рэжым ніколі не меў і ўжо не займее, — нязручна. А што да крытыкі, то гэтая вайна за знакі ўжо прайграная. Праз 20 гадоў пасля змены ўлады гэтая стужка будзе глядзецца як замалёўка з забытай натуры.



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# КРЭСКІ ДА ГРАНДЫЁЗНАГА ПАЛАТНА

**Прэзентацыямі і мастацкімі выставамі арганізатараў галерэі «Ў» не здзівіць. Але гэтая культурніцкая падзея выпадала з шэрагу будзённых: у перапоўненай мастакамі і аматарамі беларускага мастацтва галерэі прэзентавалася кніга Сяргея Гваздзёва «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі», што пабачыла свет у выдавецтве «Галіяфы».**

На жаль, сам Сяргей Гваздзёў з-за цяжкай хваробы не змог прысутнічаць на прэзентацыі. Але постаць аўтара нябачна прысутнічала ў галерэі «Ў». Сяргей стварыў і перадаў для паказу на прэзентацыі слайд-фільм, у якім прадставіў каляровыя здымкі палотнаў забытых мастакоў Заходняй Беларусі, а таксама свае каментары да іх творчага лёсу і значэння для гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва.

Асаблівую ўрачыстасць прэзентацыі надавала прысутнасць на ёй маці аўтара — Валянціны Мікалаеўны.

Сяргей Гваздзёў — сталы аўтар «мастацтвазнаўчых дэтэктываў», якія друкуюцца ў НЧ. І лагічна, што кніга «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі» запачаткавала выдавецкую серыю «Бібліятэка «Новага Часу»», Таму вядучая імпрэзы Таццяна Беланогая прадставіла ўступнае слова галоўнаму рэдактару гэтага выдання Аляксею Каралю.

«Сяргей Гваздзёў у сваёй кнізе вяртае ў нацыянальны культурнамастацкі кантэкст шэраг імёнаў выдатных беларускіх мастакоў. Наш час вылучае такія творчыя асобы, якія могуць ажыццявіць тое, што па сілах цэламу калектыву даследчыкаў. Сяргей Гваздзёў — менавіта такая асоба», — адзначыў Аляксей Кароль.

Музычную частку прэзентацыі працягнуў малады інструментальны гурт «Fratrez», які выканаў некалькі медытатыўных кампазіцый для струнных і духавых інструментаў.


Фота Анатоля Мальцуя

Далей слова было прадстаўлена мастацтвазнаўцы Ларысе Фінкельштэйн, якая адзначыла: «Праца Гваздзёва — не проста пералік імёнаў забытых мастакоў, але і спроба асэнсаваць іх унёсак у нацыянальнае мастацтва. Да таго ж асаблівасць творчасці аўтара — тое, што кніга напісана вельмі прафесійнай і, адначасова, вельмі простай для разумення мовай».

Сяргей увесь свой вольны час, натхненне і цікаўнасць ахвяраваў глыбокаму раскрыццю тэмы мастацкай школы Заходняй Беларусі. Таму гэта праца павінна быць аддзячана і мастацкай грамадскасцю, і беларускімі мастакамі, і навучэнцамі, для якіх кніга Сяргея Гваздзёва можа стаць важкім дапаможнікам па гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва.

«Думаю, маладыя беларускія мастакі пойдуць за гэтай кнігай далей, будуць шукаць страчаныя скарбы больш глыбока і шырэй», — завяршыла сваё вітальнае слова спадарыня Фінкельштэйн.

Ад імя мастацкай супольнасці, якая была шырока прадстаўлена на прэзентацыі, выхад новай мастацтвазнаўчай працы віталі знакамітыя беларускія мастакі Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Цыркуноў і іншыя. «Выданне мастацтвазнаўчай кнігі — подзвіг даследчыка, які аўтарам быў задуманы як двухтомнік. Гэтая кніга, на маю думку, будзе ўспрымацца як важны здабытак і ў Акадэміі мастацтваў, і ў мастацкіх каледжах, і ў саміх мастакоў», — адзначыў Мікола Купава.

З выдатнай падзеяй — выхадам унікальнай мастацтвазнаўчай кнігі — павіншавала прысутных і аўтара дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея-архіва літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. Яна зазначыла: «Такіх, як Сяргей Гваздзёў, можна назваць ратавальнікамі памяці людзей»,

Гэта памяць і вызначае непарыўную сувязь часоў. Як узгадала літаратурная рэдактарка Аляўціна Вячорка, адзін з герояў кнігі Гваздзёва — Аляксандр Лазіцкі — быў у яе настаўнікам малявання ў пінскай школе №2. Захапленне Лазіцкага архітэктурай і гісторыяй Пінска на ўсё жыццё адгукнулася ў душы Аляўціны Вячоркі глыбокай цікавасцю да беларушчыны.

Па меркаванні Адама Мальдзіса, экзэмпляры кнігі Сяргея Гваздзёва абавязкова павінны быць у Лонданскай беларускай бібліятэцы і ў Інстытуце Беларусі, які функцыянуе ў Вільнюсе.

Безумоўна, такіх грунтоўных і наватарскіх даследаванняў, прысвечаных «белым плямам» беларускага мастацтва, пакуль у краіне выходзіць замала. Але кніга «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі» можа стаць своеасаблівым пілотным праектам, які іншым мастацтвазнаўца дапаможа адрадзіць грандыёзнае палатно нацыянальнага выяўленчага мастацтва Заходняй Беларусі.











Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 454

Падпісана да друку 19.04.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча